В. П. КРАСНЕЙ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, перапрацаванае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 811.161.3(075.2=161.3)
ББК 81.2Беи-922
К78

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (канд. пед. навук дацэнт *С. М. Якуба*);
настаўнік пачатковых класаў вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 190 г. Мінска» *А. Л. Семчанка*

## Умоўныя абазначэнні:

 — для засваення;

 — для азнаямлення;

 — адкажыце на пытанні;

 — практыкаванне або заданне павышанай цяжкасці;

 — дадатковае заданне ці заданне на паўтарэнне;

 — практыкаванне па развіцці мовы;

 — практыкаванне для дамашняга задання;

зн — значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку ў канцы падручніка;

Рм — заданне на развіццё маўлення

ISBN 978-985-465-974-9 (ч. 2)
ISBN 978-985-465-972-5

# СЛОВА

## САСТАЎ СЛОВА

### Суфікс як частка слова

**1.** Разгледзьце малюнкі і скажыце, каго ці што вы на іх бачыце.



бяроза
бярозка
грыб
грыбок
грыбнік





Запішыце аднакаранёвыя словы, абазначце ў іх корань і канчатак.

Назавіце тую частку, якой адрозніваюцца паміж сабой роднасныя словы. Абазначце яе значком ∧.

Пасля якой часткі слова яна стаіць? Падумайце, для чаго яна служыць у мове.



Частка слова, якая стаіць пасля кораня, называецца **суфіксам.**

Суфіксы служаць для ўтварэння слоў: *ліпа — ліпка, ліпавы; снег — сняжок, снежны, снегавы, снегавік, сняжынка.*

Суфікс абазначаецца знакам ^.

**2.** Ад наступных слоў пры дапамозе суфіксаў утварыце іншыя словы. Запішыце іх. Абазначце корань і суфікс.

1) дзень — дзянёк
матыль — ...

2) дуб — дубок
голас — ...

3) стол — столік
бусел — ...

4) рыба — рыбка
груша — ...

● З адным словам кожнага слупка (на выбар) складзіце і запішыце апавядальныя сказы. Падкрэсліце ў сказах дзейнік і выказнік.



Якое значэнне надаюць словам суфіксы ***-ок, -ёк, -ік, -к-***?

**3.** Складзіце з прыведзеных частак словы і запішыце іх. Абазначце суфіксы.

пад, нік, снеж, і
ушк, а, карм
а, урк, сняг

ятк, зярн, а
а, к, ел
сон, а, ейк

**4.** Утварыце словы паводле ўзораў. Запішыце, абазначце суфіксы.

Бяроза — бярозка — бярозанька.
Крыніца — ... — ... .
Вусы — вусікі — вусішчы.
Рукі — ... — ... .



Якія суфіксы надаюць словам памяншальнае значэнне, якія — ласкальнае, а якія — павелічальнае?



**5.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце аднакаранёвыя словы. Вызначце, якія з іх маюць суфіксы. Суфіксы абазначце.

Вось і зіма прыйшла. Выпаў першы снег, іскрысты, прывабны. Роўненькім снегавым пухавіком услады палеткі. Бель такая, што аж вачам балюча. Мароз і сонца! Прыемна такім сонечным марозным дзяньком пагуляць у снежкі.

**6.** Ад назваў прадметаў утварыце назвы прымет. Запішыце іх у слупок. Абазначце суфіксы.

1) лес — лясны
мір — ...
3) горад — гарадскі
шафёр — ...
камандзір — ...

2) гонар — ганаровы
ружы — ...
4) балота — балоцісты
голас — ...
лес — ...



### Як знайсці суфікс у слове

Каб знайсці суфікс, напрыклад, у слове *дружная,* разважай так.

1. Змяняю слова: *дружная, дружнай, дружную*. Выдзяляю канчатак: *-ая*.

2. Падбіраю аднакаранёвыя словы: *дружная, дружба, дружыць, падружыцца*. Выдзяляю агульную частку — корань: *-друж-*.

3. Суфікс стаіць пасля кораня. Значыць, у слове *дружная* суфікс ***-н-***. Абазначаю яго знакам ^: *друж^ная*.

**7.** Прачытайце верш. Вызначце яго асноўную думку.

ХЛЕБНАЯ СКАРЫНКА

Пахне хлебная скарынка
цёплым ветрыкам, хваінкай,
летнім дождыкам грыбным,
лугам, полем аржаным,
і асенняй пазалотай,
ды натхнёнаю[зн] работай.

*А. Дзеружынскі*

**натхнёны**



З якім пачуццём паэт напісаў пра хлеб? Па якіх словах вы гэта вызначылі?

Выпішыце словы са значэннем прыметы прадмета. Вызначце ў словах суфіксы і абазначце іх.

**8.** Прачытайце. Чаму верш мае такую назву?

### СТАЛОЎКА ДЛЯ ПТУШАК

Уночы выпаў першы снег.
Цяпер нялёгка птушкам.
Сказала ранкам мама мне:
«Зрабі, сынок, кармушку».
Ляжыць фанера, малаток,
працуе пілка лоўка.
У радасць выхадны дзянёк —
раблю сябрам сталоўку.

*В. Савасцюк*

Прачытайце верш яшчэ раз і запішыце яго па памяці.



Якія словы са значэннем прадмета маюць суфіксы? Назавіце іх.

**9.** Разгадайце рэбус.

о=а





ш=ж



п=ц



с=п







✷ **10.** Прачытайце словы. З дапамогай прыведзеных суфіксаў утварыце ад іх іншыя словы з памяншальным і павелічальным значэннем. Запішыце паводле ўзору. Абазначце суфіксы.

Узор: *хвост — хвосцік — хвасцішча.*

| |
|---|
| *-к-, -ік, -ёк* |
| *-ішч- (-ышч-)* |

Акунь, гара, дом, рука.



**11.** Прачытайце. Выпішыце сказы, у якіх ёсць суфіксы з памяншальна-ласкальным значэннем. Абазначце ў іх корань і суфікс.

1. Мароз замураваў шыбы. 2. Завеяй загуляў вятрыска. 3. Марозік крэпіць. 4. Павяваў свежы ветрык. 5. У хаце стаяла такая халадэча, што цяплей было на дварэ. 6. Тонкі лядок разламаўся і разляцеўся мокрымі ільдзінкамі. 7. Лёд таўшчэе. 8. Ільдзіна гарыць халодным сіняватым святлом.

## Ужыванне ў мове слоў з суфіксамі

**12.** Прачытайце. Выпішыце словы з памяншальна-ласкальным значэннем. Як вы растлумачыце ўжыванне гэтых слоў?

Мы спыніліся і доўга разглядалі работы самадзейнага майстра. Усе яго фігуркі смяяліся. Ці то былі

людзі — бабкі-дзедкі, малыя дзеткі, ці звяры-зверанятки. Добры сабачка, які агарнуў лапкамі коціка і разлёгся на дыванку. А коцік спіць, скруціўшыся абаранкам *(Паводле У. Дамашэвіча)*.

**13.** Прачытайце. Назавіце суфіксы ў словах са значэннем прыметы. Спалучыце гэтыя словы з тымі словамі ў дужках, якія падыходзяць па сэнсе. Запішыце іх паводле ўзору.

Узор: *снежная хмара, снегавая машына*.

Снежная, снегавая *(машына, хмара)*; драўляная, дрэвавая *(расліна, хата)*; каменны, камяністы *(бераг, падмурак)*; земляныя, зямныя *(арэхі, турботы)*; дажджлівая, дажджавая *(вада, восень)*.

**14.** Прачытайце. Спішыце, выбіраючы ў дужках тое слова, якое адпавядае сэнсу сказа. Растлумачце свой выбар.

Твар Ніны ласкава гладзіў пяшчотны *(вецер, ветрык, вятрыска)*. На двары стыла прыхопленая першым *(марозам, марозікам)* арабінка. На высокай *(елцы, ёлачцы)* засвяціліся золатам *(шышачкі, шышкі)*. Дарога перайшла ў вузенькую *(сцежку, сцежачку)*, якая вяла ў густы зараснік.

**15.** Прачытайце. Спішыце, змяняючы выдзеленыя словы так, каб яны мелі памяншальна-ласкальнае значэнне.

Катаўся *Андрэй* з гары на *санках* і прастудзіўся. *Хлопцы* на двары снежную бабу лепяць, на каньках катаюцца. Хочацца Андрэю на вуліцу. Папрасіўся ў бацькі. Бацька пагладзіў яго па *галаве* і кажа:

— Яшчэ рана, *сын*, пачакай яшчэ *дзень*.



**16.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце тэкст, выбіраючы са слоў у дужках тое, якое больш адпавядае тэксту і малюнку.



Маленькая казуля вельмі прывабная на выгляд. У яе невялікая *(галава, галоўка)* з ледзь прыкметнымі *(рожкамі, рагамі)* на стройнай гнуткай *(шыі, шыйцы)*. Вялікія цёмныя *(вочы, вочкі)*. Зграбнае тулава на высокіх *(нагах, ножках)* з маленькімі завостранымі *(капытамі, капыткамі)* *(Паводле В. Вольскага)*.

Запішыце тэкст са словамі, якія вы выкарысталі. Растлумачце свой выбар.



Гэты тэкст з'яўляецца апавяданнем ці апісаннем? Чаму вы так думаеце?

## Падваенне зычных на стыку кораня і суфікса

**17.** Спішыце словы. Абазначце ў іх корань і суфікс.

Хлебны, летні, грыбны, асенні, лімонны.



Чаму ў словах *асенні, лімонны* пішуцца дзве літары ***н***?



Калі зычныя гукі ў канцы кораня і ў пачатку суфікса аднолькавыя, то гэтыя гукі падвойваюцца і на пісьме перадаюцца дзвюма літарамі.

**18.** Прачытайце. Спішыце. У выдзеленых словах абазначце корань і суфікс. Растлумачце напісанне ***-н-*** і ***-нн-***.

1. Пад старымі ялінамі гусціўся *сасоннік*. 2. Шуміць малады *бярэзнік*. 3. Любіў бацька свіст касы ў *росных* травах. 4. Андрэй зірнуў у акно і ўбачыў *конніка*. 5. Для людзей ён быў вясёлы музыка і *песеннік*.

**19.** Прачытайце. Словы ў дужках замяніце аднакаранёвымі з суфіксам ***-нік.*** Сказы запішыце.

1. Чаромха і крушына былі пераплецены калючым *(ажына)*. 2. Гулі над *(маліна)* працавітыя пчолы. 3. Ціха цікае *(гадзіна)*. 4. *(Журавіны)* цягнуўся на многія кіламетры.

**20.** Прачытайце. Словы ў дужках замяніце аднакаранёвымі са значэннем прыметы прадмета. Запішыце паводле ўзору.

У з о р: *асенні дзень.*

**-н-**
**-ян-**

*(Восень)* дзень, *(камень)* падмурак, *(туман)* раніца, *(сукно)* касцюм, *(салома)* капялюш, *(акно)* рама, *(цэгла)* дом, *(трава)* пах, *(палатно)* ручнік, *(палатно)* абрус, *(сон)* голас.

Растлумачце напісанне падвоеных літар.

● З двума спалучэннямі слоў складзіце (вусна) апавядальны і пытальны сказы.

**саламя́ны**



**21.** Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, прапушчаныя літары.

1. Па асін..іку, па ляшчын..іку скокам-бокам, скокам-бокам — за сарокаю сарока *(В. Зуёнак)*. 2. У траве сакаталі кон..ікі *(Я. Брыль)*. 3. Зіму змыюць паводкі гул..івыя *(З. Бядуля)*. 4. Грузавікі грукацелі па камен..ым бруку *(М. Лынькоў)*. 5. Укрылі далёкія зоры нябесн..ы бяздон..ы прастор *(Я. Колас)*.

## Разбор слоў па саставе

**22.** Прачытайце верш.

У хусцінцы — тры гасцінцы:
табе, братка, — шакаладка,
табе, дружок, — піражок,
а сястрычцы — тваражок...
*В. Вітка*

Знайдзіце словы, якія адпавядаюць па саставе схеме .

Перапішыце схему ў сшытак. Побач з ёю запішыце гэтыя словы.



### Як вызначыць састаў слова

Каб вызначыць састаў слова, патрэбна знайсці і абазначыць:

канчатак *прыдарожн* *ы*

аснову *прыдарожн* *ы*

корань *прыдарожн* *ы*

суфікс *прыдарожн* *ы*

прыстаўку *прыдарожн* *ы*

**23.** Выпішыце з арфаграфічнага слоўніка тры словы на літару ***Б***, якія маюць такі састаў, як паказана ў табліцы.

| корань, канчатак | корань, суфікс, канчатак | корань, суфікс, нулявы канчатак |
|---|---|---|
| *бавоўн* *а* | *балоціст* *ы* | *бадзёрасць* |

**24.** Прачытайце.

Пад вечар, ужо на змярканні, стаў пашумліваць вецер. *Бялявыя зімовыя* хмары нізка *навіслі* над *зямлёй*. Пасыпаў дробненькі гусценькі *сняжок*. Яго *белая* заслона *закрывала* будынкі і дрэвы *(Я. Колас)*.

Назавіце словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі.

Выпішыце выдзеленыя словы і абазначце ў іх аснову і канчатак.



- Якая розніца ў значэнні слоў *шумець* і *пашумлі-ваць, белы* і *бялявы?*
- Якой часткай слова выражаецца гэта адрозненне ў адным і другім выпадках?

**25.** Разгледзьце малюнкі і на іх аснове складзіце тэкст. Напішыце, што ў якую пару года рабілі дзеці.



Для даведкі: ***пасадзіць, рыдлёўка, стволік, абвязваць, ядловец, бяліць.***



**26.** Прачытайце тэкст. Спішыце, апускаючы дужкі. Растлумачце напісанне прыставак і прыназоўнікаў.

Быў цяжкі бой. *(У)* гэтым баі смяротна *(па)* ранілі Ілью Анохіна. Ён памёр *(на)* руках сваіх таварышаў. Сябры пахавалі яго *(на)* заставе. Кожны год *(на)* граніцу *(пры)* ходзяць служыць новыя воіны. Камандзір заставы *(рас)* казвае ім *(пра)* геройскі подзвіг салдата.

- Разбярыце па саставе слова *геройскі.*



Чым неабходна кіравацца, каб адрозніць прыстаўку ад прыназоўніка?

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**27.** Разгледзьце схему.






- Якая частка слова з'яўляецца асновай?
- З якіх частак можа складацца аснова? Прывядзіце прыклады.
- Якая частка асновы з'яўляецца галоўнай? Абгрунтуйце свой адказ.
- Што агульнае і якая розніца паміж прыстаўкай і суфіксам?

**28.** Прачытайце. Выпішыце словы, якія называюць прыметы прадметаў. Падкрэсліце аснову і абазначце часткі слова, якія ўваходзяць у яе састаў.

Устане рана хлебапёк,
адчуе смачны пах.
І пойдзе жытні свежы хлеб
з румянцам на шчаках.

*Э. Агняцвет*

- Назавіце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.

**29.** Прачытайце смяшынкі. Якія словы выклікаюць у вас усмешку? Разбярыце іх па саставе.

1. На сцежку верабей прысеў,
а тут і голуб падляцеў.
Смяецца радасна Андрэй:
— Вось верабей! Вунь галубей!

*В. Гардзей*

2. Да хлява падыходзіць дзед з унучкай.

— Хто гэта, унучка? — пытаецца дзед.

— Ведаю, ведаю! Гэта, дзядуля, парасяткі і іхняя мама — парасіха! *(Паводле Я. Брыля)*.

**30.** Разгадайце жартоўныя пытанні-загадкі з дапамогай малюнкаў.

1. Назва якога грыба складаецца з прыстаўкі і *зялёнкі*?

2. Назва якой расліны складаецца з дзвюх аднолькавых прыставак і слова *раць*?

3. Назва якой расліны складаецца з дзвюх прыставак і *будкі*?

4. Назва якога дрэва складаецца з прыназоўніка і *лёну*?






**31.** Прачытайце. Выпішыце асобнымі слупкамі аднакаранёвыя словы. Вызначце вусна іх састаў.

У Сашы вяснушкі, а ў Наташы твар чысты. Яны стаяць каля люстэрка і разважаюць:

— Я нарадзіўся, калі была вясна, пасля свята Перамогі, — кажа Саша. — А вясной бываюць вяснушкі.

— А мой дзень нараджэння прыпадае на зіму. У мяне будуць зімушкі *(І. Грамовіч)*.



**32.** Прачытайце. Спішыце. У словах з памяншальна-ласкальным значэннем абазначце корань і суфікс.

Захададала. Ударылі маразы.

Раніцай Марынку разбудзіў стук у шыбу. Яна прыхінулася да акна. Дзяўчынка ўбачыла жаўтагрудую, у чорнай аксамітнай[зн] шапачцы птушачку.

— Васілёк! — гукнула Марынка. — Верабейка прыляцеў!

— Гэта ж сінічка! *(Паводле І. Аношкі)*.

# ЧАСЦІНЫ МОВЫ

## НАЗОЎНІК ЯК ЧАСЦІНА МОВЫ

**33.** Разгледзьце малюнкі і на іх аснове складзіце некалькі сказаў (па варыянтах).





Запішыце сказы. Назавіце ў іх словы, якія абазначаюць прадметы і адказваюць на пытанне х т о? або ш т о?



Словы, якія абазначаюць прадметы і адказваюць на пытанне х т о? або ш т о?, называюцца **назоўнікамі:** *мастак, салавей, камп'ютар, станок.*

**34.** Спішыце спачатку пары слоў, якія адказваюць на пытанне  х т о?, а затым — тыя, якія адказваюць на пытанне  ш т о?

Радасць — сум, багацей — бядняк, адвага — баязлівасць, сябра — вораг, ветлівасць — грубасць, дабрадзей — злыдзень, дружба — варожасць, здароўе — хвароба, згода — сварка, спакой — трывога, шчаслівец — гаротнік.

● Што вы можаце сказаць пра лексічнае значэнне слоў кожнай пары?

**35.** Прачытайце. Вызначце тэму верша. Як вы разумееце слова *Бацькаўшчына*?

Што такое Бацькаўшчына, знаеш?
Гэта рэчка, сцежачка лясная,
гэта ў лузе залатая пчолка,
а ў вачах тваіх — вясёлка.
Бацькаўшчына — гэта дом твой, школа,
гэта сам ты,
гэта тата твой і мама,
і сябры твае таксама.

*П. Панчанка*

Выпішыце назоўнікі, якія адказваюць на пытанне  ш т о? З трыма назоўнікамі складзіце свае сказы.



**36.** Прачытайце. Які загаловак можна даць гэтаму тэксту? Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце назоўнікі.

Роднае слова саграваe чалавека сваім ц..плом.

Родная мова — гэта акенца ў шырокі свет. У родным слове жыве шматвяковая мудрасць народа. Гэта ж..вая і трапяткая душа народа. А душа бе..смяротная. Значыць, бе..смяротная і наша мова.

Як вы разумееце выраз *Родная мова — гэта акенца ў шырокі свет*?

- Разбярыце першы сказ па членах сказа.



Якімі членамі сказа могуць быць назоўнікі?

## Вызначэнне назоўніка па значэнні і пытанні

**37.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Растлумачце значэнне выдзеленых слоў. Пастаўце да іх пытанні і вызначце назоўнікі.

Ціхі вецер. *Снег* павіс белымі карункамі на др..вах. На *яловых* лапках блішчаць *сн..жынкі*. Стройныя *елкі* любуюцца сваім зімовым убраннем.

Ідуць хл..пчукі на лыжах па *заснежаных* л..сных даро..ках. Любяць сасновы бор Пеця з Васем (*Паводле К. Каліны*).

Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. У сказах першага абзаца падкрэсліце дзейнік і выказнік.



Які галоўны член сказа часцей за ўсё выражаецца назоўнікам?

**38.** Прачытайце дыялог.

— Смех — гэта назва прадмета. Значыць, слова *смех* — назоўнік.

— Ці ж смех — гэта прадмет? — не стрымаўся Валодзя. — Паспрабуй, Зося, дакрануцца да яго рукамі.



Што б вы сказалі, калі б удзельнічалі ў гэтай размове?

**39.** Прачытайце. Растлумачце, што абазначаюць выдзеленыя словы. Пастаўце пытанні і вызначце, якія з гэтых слоў адносяцца да назоўнікаў.

1. Скрып даносіўся да весніц,
   гул вятрыскі *лютага* —
   то зіма спявала песні
   на пачатку *лютага* *(А. Іверс)*.

2. Мае сябры заслужанымі *сталі*
   майстрамі лесу, вугалю і *сталі* *(С. Грахоўскі)*.

Спішыце і падкрэсліце назоўнікі.

**40.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Над назоўнікамі запішыце пытанні, на якія яны адказваюць.

Снег — гэта зам..рзлая вада. Кожная сн..жынка складаецца з крышталікаў. А..бітак святла ад граняў гэтых крышталікаў робіць снег белым. Сн..жынкі падобныя на зоркі або пласцінкі. Аднолькавых сн..жынак не бывае *(часопіс «Вясёлка»)*.

Падкрэсліце ў тэксце аднакаранёвыя словы.



**41.** Прачытайце. Дайце загаловак вершу. Спішыце і падкрэсліце назоўнікі, якія адказваюць на пытанні к а г о? ч а г о?

Музыка лашчыць[зн] душу:
можа яна нагадаць
ветру асенняга шум,
звон ручая,
спеў салаўя;
можа яна перадаць
крык, цішыню,
лёт матылькоў і арлоў.
Хораша так размаўляе без слоў.

*В. Жуковіч*

● У словах са значэннем дзеяння абазначце прыстаўкі.

## Назоўнікі, якія абазначаюць жывыя прадметы

**42.** Прачытайце. Запішыце назоўнікі па групах у наступным парадку:

зімаро́дак

людзі:
птушкі:
свойскія жывёлы:
звяры:
насякомыя:

авадзень, гусь, даярка
зімародак, конь
карова, жартаўнік
лось, мурашка
унук, шпак, янот



Словы, якія абазначаюць людзей, птушак і іншых жывых істот, — гэта **назоўнікі — назвы жывых прадметаў**. Такія назоўнікі адказваюць на пытанне *к т о?*: *брат, вучань, зубр, ластаўка, камар*.

**43.** Прачытайце. Спішыце. У дужках пастаўце пытанне да назоўніка *вавёрка.*

1. У лесе жыве (...?) вавёрка. 2. У дупле ў (...?) вавёркі ёсць арэхі і грыбы. 3. Кожны год трэба рыхтавацца (...?) вавёрцы да доўгай зімы. 4. На елцы Валерка і Юрка ўбачылі ( ?) вавёрку. 5. Яны доўга назіралі за (...?) вавёркай. 6. У класе хлопчыкі расказвалі аб (...?) вавёрцы.



На якія пытанні адказваюць назоўнікі — назвы жывых прадметаў?

**44.** Прачытайце. Якая асноўная думка тэксту? Выпішыце назоўнікі, якія пішуцца з вялікай літары. Растлумачце іх напісанне.

На карце Беларусі шмат адрасоў, якія варта ведаць і шанаваць. У Янкі Купалы — Вязынка. У Якуба Коласа — Мікалаеўшчына. Вёска Саматэвічы — у Аркадзя Куляшова. Радзіма Уладзіміра Караткевіча — Орша. Прыходзіш сюды і быццам у кроплі расы бачыш свой край, любую Беларусь *(газета «Раніца»)*.

**45.** Прачытайце. Спішыце сказы, у якіх ёсць назоўнікі — назвы жывых прадметаў. У дужках пастаўце да іх пытанні.

У з о р. *Зімой* (к а м у?) *птушкам не да спеваў.*

Зімой птушкам не да спеваў. Але ў студзені можна пачуць песню крыжадзюба, у лютым — вялікай сініцы. А вось птушыную песню пад лёдам наўрад ці каму даводзілася чуць. А спявае яе аляпка — вадзяны верабей. Зімуе яна ў пустотах пад лёдам, куды трапляе праз палонку. Тут цяплей, чым на марозе. І ястраб не нападзе. А на дне — колькі хочаш жукоў. Чаго ж аляпцы не спяваць?! *(каляндар «Родны край»)*.



**46.** Прачытайце. Выпішыце толькі тыя сказы, у якіх да слова *палятуха* можна паставіць пытанне к а г о? ці к і м?



Бачу на высокай сасне палятуху.

Чаму яе называюць палятухай? А вось чаму.

У час палёту звярок сігае з дрэва на адлегласць ажно да сарака метраў.

Любуюся палятухай, а яна на мяне глядзіць. Першы раз у жыцці давялося пабачыць палятуху. Гэта рэдкі звярок нашых лясоў. Ён занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі *(Паводле Я. Галубовіча)*.



- Што вы ведаеце пра Чырвоную кнігу Беларусі?
- Якія яшчэ звяры і птушкі занесены ў гэтую кнігу?

## Назоўнікі, якія абазначаюць нежывыя прадметы

**47.** Прачытайце. Прадоўжыце рады слоў з наступнымі агульнымі назвамі:

камба́йн

Мэбля: *стол*, ...
Садавіна: *абрыкос*, ...
З'явы прыроды: *віхор*, ...
Пачуцці: *сум*, ...
Тэхніка: *камбайн*, ...



На якое пытанне адказваюць гэтыя назоўнікі?



Словы, якія абазначаюць з'явы прыроды, машыны, расліны, рэчы, — гэта **назоўнікі — назвы нежывых прадметаў.** Такія назоўнікі адказваюць на пытанне ш т о?: *снег, сасна, экскаватар, завод, паліто, кніга, смех, клопат.*

**48.** Прачытайце сказы. Спішыце. У дужках запішыце пытанні да назоўніка *песня.* Над словам, ад якога ставіцца пытанне, пастаўце знак ×.

1. Спадарожніцай чалавека заўсёды была (...?) песня. 2. Мелодыя народнай (...?) песні кранае душу і сэрца. 3. Усё сваё жыццё прысвяціў (...?) песні Генадзь Цітовіч. 4. Услухайся ў мелодыю, і ты адчуеш жывую сувязь з народнай (...?) песняй. 5. Знайшлі свой адбітак у (...?) песні праца і побыт людзей, іх думы і спадзяванні.



На якія пытанні адказваюць назоўнікі — назвы нежывых прадметаў?

**49.** Прачытайце загадкі-анаграмы[зн] і адгадайце іх.

1. Яго прынеслі з магазіна.
*Робім* з ім да кавы бутэрброд.
Але ўвага! *Стане* ён раслінай,
толькі прачытай наадварот.

2. Ён дзень і ноч *бяжыць* па правадах
і нам святло *прыносіць* без турбот.
Ды пругка *скочыць* да сяброў на дах,
ты толькі прачытай наадварот.

*У. Мацвеенка*

Выпішыце паводле ўзору назоўнікі, якія звязаны па сэнсе з выдзеленымі словамі і адказваюць на пытанні ш т о? п а ч ы м? ч ы м? б е з ч а г о? н а ш т о?

У з о р: *робім* (ш т о?) *бутэрброд*.

**50.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі — назвы нежывых прадметаў.

## ХЛЕБ

Хто ведае яму сапраўдную цану, хто добра разумее радасць, хараство, паэзію яго нараджэння? Якія настаўнікі вучылі і вучаць людзей любові да хлеба? Іх два. Адзін — злы, страшны, бязлітасны — гэта голад. Другі — добры, шчыры, спагадлівы, сумленны — Праца *(В. Вітка)*.



**51.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Выпішыце сказы, у якіх ужываюцца толькі назоўнікі — назвы нежывых прадметаў. Устаўце прапушчаныя літары.

Цячэ ціхая р..чка Вязынка. П..тляе сярод кустоў. Але ў г..тым м..сцы, нібы здзі..леная прыгажосцю, прыпыняе свой бег.

Тут, у вёсцы Вязынка, дзе чуваць нетаропкі голас р..чкі Вязынкі, нарадзіўся народны паэт Янка Купала. Назва вёскі і р..чкі — Вязынка. Сёння гэтую вёску ведаюць людзі ў многіх краінах свету *(Паводле М. Чырскага)*.



Ці давялося вам быць у Вязынцы? Раскажыце пра свае ўражанні.

## Род назоўнікаў

**52.** Прачытайце. Параўнайце групы слоў. Да якой часціны мовы яны адносяцца?

Вецер, снег, дождж *(ён, мой)*.
Завіруха, сцюжа, спёка *(яна, мая)*.
Надвор'е, сонца, неба *(яно, маё)*.

**53.** Прачытайце.

Той, хто быць пісьменным хоча,
знаць павінен з першых год
род мужчынскі,
род жаночы
і яшчэ — ніякі род.

*А. Вольскі*



Якія роды называе паэт у сваім вершы?



Назоўнікі, да якіх можна падставіць словы ***ён, мой,*** адносяцца да **мужчынскага роду:** *лётчык, сын, конь, дом, вецер, аўторак.*

Назоўнікі, да якіх можна падставіць словы ***яна, мая,*** адносяцца да **жаночага роду:** *мама, артыстка, зямля, школа, зіма.*

Назоўнікі, да якіх можна падставіць словы ***яно, маё,*** адносяцца да **ніякага роду:** *дзіця, возера, сяло, гняздо.*

**54.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Вызначце род назоўнікаў.

В..зера, в..селле, вяс..лка, г..рой, зел..ніна, л..снік, кал..ндар, п..сня, св..тло.



Якімі правіламі трэба карыстацца пры напісанні гэтых слоў?

**55.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту. Спішыце, падкрэсліце назоўнікі і вызначце іх род.

Зіма наступіла рана. Мароз скаваў возера лёдам.

У возеры вадзіліся шчупакі, акуні, плоткі. Рыбе не хапала паветра, яна задыхалася. І дзед Янусь, каб у ваду паступіў кісларод, рабіў у лёдзе «фортачкі». Няхай жыве рыба, свежым паветрам дыхае *(Паводле Я. Галубовіча).*






Якія рыбы тут намаляваны? Якія яшчэ рыбы водзяцца ў рэках і азёрах Беларусі?


**56.** Прачытайце прыказкі. Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі, процілеглыя па значэнні (антонімы). Вызначце іх род.

1. Мір будуе, а вайна руйнуе. 2. Лепей горкая праўда, чым салодкая мана. 3. Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота, там пуста. 4. У шчасці шмат прыяцеляў, а ў няшчасці нікога няма.

## Назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду

**57.** Прачытайце. Дайце загаловак тэксту.

Жэнін тата — мастак. Ён усё ўмее маляваць.

На мальберце — гэта такая падстаўка на трох ножках — стаіць рама, абцягнутая шэрым палатном. Тата бярэ пэндзлік, фарбы і пачынае маляваць. І палатно проста на вачах ажывае.

У блакітным *небе* плывуць белыя воблакі. *Срэбрам* пераліваецца *рака*. Расцвітаюць на *лузе* кветкі.



А вось і *хлопчык*. Ён стаіць на *беразе* каля самай *вады* і ловіць *рыбу (Паводле Я. Бяганскай)*.

Спішыце апошні абзац. Зверху пазначце род выдзеленых назоўнікаў.

**58.** Прачытайце. Растлумачце значэнне слова *камень-валун.*



Сёння мала хто звяртае ўвагу на камень-валун, што ляжыць ускрай палявой дарогі ці на ўзлеску або пукатым узгорку. Па ўсёй Беларусі камяні складаюць неад'емную частку краявіду. І таму не будзе дзівам, што ў нашай краіне звыш ста дваццаці назваў паходзяць ад найменя «камень»: Каменка, Камянюкі, Камянец, Каменны *(Паводле В. Сташчанюка)*.

Спішыце першыя два сказы. Падкрэсліце назоўнікі мужчынскага роду.

Выпішыце з тэксту аднакаранёвыя словы, абазначце корань і суфікс.

**59.** Прачытайце. Растлумачце назву тэксту. Выпішыце назоўнікі жаночага роду.

### ЗДАГАДЛІВЫЯ

Мяцеліца аціхла. Я падаўся ў пушчу. Спыніўся на палянцы. Вакол белая прыгажосць. Пачуў звонкую песеньку. Убачыў сініцу. Галава чорная, спінка жаўтавата-зялёная. Пад галінкаю віднелася гняздо. З дупла выпырхнула яшчэ адна сініца.

Вось яно што! У дупле яны прыціснуцца адна да адной — і ніякая сцюжа ім не страшная *(Паводле Я. Галубовіча)*.

**60.** Прачытайце. Вызначце род назоўнікаў. Выпішыце асобнымі слупкамі назоўнікі мужчынскага, жаночага, ніякага роду. Абазначце канчаткі назоўнікаў.

Акно, блакіт, вежа, вучань, галлё, дзіця, дзядзька, дзядуля, жыта, зямля, край, крыніца, песня, поле, рунь, стог, маці, Радзіма.

Складзіце па адным сказе з назоўнікамі мужчынскага, жаночага і ніякага роду.

- Падкрэсліце ў кожным сказе дзейнік і выказнік.



**61.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце назоўнікі і зверху пазначце іх род (м. р., ж. р., н. р.).

Жыла маленькая крынічка з крыштальнай вадзіцай. Пухнатыя воблакі, бы ў люстэрка, пазіралі ў Сінявочку. У спякотныя летнія дні купалася ў ёй сонейка. Ноччу на паверхні вады разам з зоркамі адпачываў месяц *(Паводле А. Дударава)*.

## Назоўнікі адзіночнага і множнага ліку

**62.** Разгледзьце малюнкі. Запішыце іх назвы ў два слупкі.





- У якім слупку кожнае слова называе адзін прадмет, а ў якім — два і больш?
- Да якіх слоў можна падставіць словы ***ён, яна, яно,*** а да якіх — слова ***яны***?



**Назоўнікі змяняюцца па ліках. Яны могуць называць адзін прадмет і ўжывацца ў форме адзіночнага ліку *(гусь, кніга, дом, сасна, поле)*, а могуць называць два ці больш прадметаў і ўжывацца ў форме множнага ліку *(гусі, кнігі, дамы, сосны, палі)*.**

**63.** Прачытайце ўрыўкі з твораў Якуба Коласа.

1. Марозік крэпіць, лёд таўшчэе,
і рэчка вольная нямее,
да дна вадзіца вымярзае
і ходу, бедная, не мае.

2. Надышлі марозы,
рэчкі закавалі,
белыя бярозы
шэранем убралі.

Як вы разумееце выразы *рэчка вольная нямее* і *марозы рэчкі закавалі*?

Спішыце. Зверху над назоўнікамі абазначце іх лік *(адз. л., мн. л.)*.



- На што ўказваюць формы ліку назоўнікаў?
- Чаму Якуб Колас у адным выпадку аддаў перавагу назоўнікам адзіночнага ліку, а ў другім — назоўнікам множнага ліку?

**64.** Падрыхтуйцеся чытаць па асобах. Пры чытанні перадайце голасам інтанацыю сказаў.



Сцёпка цешыўся з жарэбчыка, гладзіў яго па лысінцы. А дзядзька гаварыў замілавана:

— Конь, брат, вырасце! Дай яму, сынок, толькі на ногі стаць.

Сцёпка з увагай слухаў конюха, а потым запытаў:

— А як вы яго назавяце, дзядзька Мікола?

Конюх паглядзеў на жарэбчыка, падумаў і адказаў:

— Гэта яшчэ падумаць трэба. Не ўсякае імя, брат, падыходзіць *(Паводле А. Якімовіча)*.

Складзіце працяг размовы Сцёпкі і дзядзькі Міколы і запішыце.

Падкрэсліце назоўнікі. Зверху абазначце іх лік.

- Якія словы вы напісалі з вялікай літары? Чаму?



**65.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Спішыце сказы, у якіх ёсць назоўнікі. Падкрэсліце іх. Зверху абазначце род і лік.

Я люблю глядзець, як мама ўсміхаецца. Твар у мамы круглы і ямачкі на шчаках. А вочы ясныя, сінія. Яна добрая. Я яе злой ніколі не бачыў. Нават

калі сярдуе, яна ўсё роўна добрая. Косы ў мамы русыя. Яна іх заплятае і ўкладвае кольцам на галаве. За гэта тата называе яе сонейкам *(Паводле А. Ліханава).*


Што б вы напісалі пра сваю маму?

## Змяненне назоўнікаў па ліках

**66.** Слова, якое абазначае адзін прадмет, змяніце так, каб яно абазначала некалькі прадметаў. Запішыце словы парамі. Выдзеліце канчаткі.

Узор: *краін* [*а*] — *краін* [*ы*].

1. Арэх, горад, луг, сябар.
2. Дарога, зіма, ноч, рака.
3. Акно, возера, зярнятка, вока.

● З дзвюма парамі слоў (на выбар) складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце дзейнік і выказнік, назавіце звязаныя з імі па сэнсе даданыя члены сказа.

**67.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму.

Нялёгка прыходзіцца жыхарам пушчы ў суровы зімовы час. Маладыя дзікі не могуць часам выбрацца з глыбокага снегу і выкапаць сабе корм з

абледзянелай зямлі. Яны выбіваюцца з сіл і гінуць ад голаду і холаду.

Зімою амаль адзіным кормам казулі і аленя з'яўляюцца галінкі дрэўцаў і кустоў. Жывёлы слабеюць ад недахопу корму, ад барацьбы з завеямі. Яны нярэдка становяцца здабычай ваўкоў. Менш за ўсё баяцца холаду зубры. Але корму зімой не хапае і зубрам. Вось тут і прыходзіць на дапамогу лясным звярам чалавек *(В. Вольскі)*.

У другім абзацы знайдзіце назоўнікі, якія ўжываюцца ў множным ліку. Вызначце іх род.



- Як жывецца жыхарам пушчы ў суровы зімовы час?
- Чаму зімою нялёгка маладым дзікам?
- Што здараецца зімой з казулямі і аленямі?
- Як чалавек можа дапамагчы жывёлам?

Адказы на пытанні запішыце.



Каб вызначыць род назоўніка, які стаіць у множным ліку, трэба ўтварыць ад яго форму адзіночнага ліку, а затым падставіць словы ***ён, мой; яна, мая; яно, маё:*** *дажджы — дождж* (***ён, мой*** — мужчынскі род); *дарогі — дарога* (***яна, мая*** — жаночы род); *дрэвы — дрэва* (***яно, маё*** — ніякі род).

**68.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце 4—5 сказаў на тэму «Чалавек дапамагае жыхарам пушчы». Абазначце лік і род назоўнікаў.





**69.** Прачытайце.

*Зіма* ў Белавежскай пушчы нядоўгая.

У канцы снежня *зямля* і *дрэвы* апранаюцца ў снегавое *ўбранне*. Мяккая зіма прываблівае ў пушчу многіх птушак з паўночных раёнаў. Некаторыя крылатыя *жыхары* выводзяць патомства. У пачатку лютага ў гняздзе крыжадзюбаў з'яўляюцца *птушаняты*.

У канцы лютага цёплыя прамяні сонца гавораць аб надыходзе вясны.



Як вы разумееце сэнс выразу *мяккая зіма?*

Спішыце сказы з выдзеленымі назоўнікамі. Пазначце зверху іх род і лік.

## Утварэнне множнага ліку назоўнікаў пры дапамозе канчаткаў *-ы, -і*

**70.** Прачытайце назоўнікі. Змяніце іх так, каб яны абазначалі многа прадметаў. Запішыце паводле ўзору. Абазначце канчаткі назоўнікаў множнага ліку.

У з о р: *клас — клас[ы].*

Сябар, аловак, ноч, сарока, вока, поле.



З дапамогай якіх канчаткаў утвараецца множны лік назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду?

● Складзіце і запішыце адзін сказ з назоўнікам адзіночнага ліку. Пасля запішыце той жа сказ з назоўнікам множнага ліку. Звярніце ўвагу, ці змяніліся пры гэтым іншыя словы.

**71.** Прачытайце.

Зімовы лес дзівосны —
не лес, а проста казка!
Заснежаныя сосны
стаяць у белых масках.

Сумёты[зн] пры ялінах
стаяць, нібы палаткі.
Там спяць, як у пярынах,
глушцы і курапаткі.

*В. Гардзей*

Выпішыце ў слупок назоўнікі множнага ліку і абазначце канчаткі.



Ці можна падставіць да назоўнікаў множнага ліку словы ***ён, мой; яна, мая; яно, маё*** і вызначыць род?

Ад выпісаных назоўнікаў утварыце адзіночны лік і запішыце іх у другі слупок. Вызначце род гэтых назоўнікаў.

Як вызначаецца род назоўнікаў, якія стаяць у множным ліку?

**72.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Выпішыце сказы, у якіх назоўнікі ўжыты ў множным ліку. Абазначце зверху іх род.

Мароз, мяцеліцы — пастаянныя спадарожнікі лютага. Але люты прыносіць і радасць. Іншы раз неба становіцца глыбокім і сінім, а сонца яркім і цёплым.

Весялеюць птушкі. Працягла і звонка ў сонечны поўдзень выводзіць сваю першую веснавую песеньку сініца.

Не адстае ад яе і аўсянка. Сядзіць на альховым кусточку і так складна выводзіць: сінь-сінь-сінь.



А ў гэты час збіраюцца да адлёту на поўнач зімовыя госці Беларусі: амялушкі, чачоткі, снегіры. Развітваюцца яны з беларускімі лясамі ў лютым ці ў пачатку сакавіка *(каляндар «Родны край»)*.

**73.** Разгледзьце малюнак. Раскажыце, што на ім адлюстравана.



Дайце імёны дзецям і паводле малюнка складзіце і запішыце некалькі сказаў. Падкрэсліце назоўнікі. Абазначце іх лік.



**74.** Прачытайце. Змяніце сказы так, каб выдзеленыя назоўнікі ўжываліся ў множным ліку.

1. Звычайна *заяц* вядзе начны лад жыцця, а днём адпачывае. 2. Цяжка даводзіцца *зайцу* зімой у лютыя маразы. 3. Усе крыўдзяць *зайца*: і *воўк*, і *сабака*, і *ліса*, і *сава*.



- З дапамогай якіх канчаткаў утвараецца множны лік назоўнікаў?
- Ад чаго залежыць выкарыстанне канчатка ***-ы*** ці ***-і***?

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**75.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Дзядзька Васіль — майстар на ўсе рукі. Ён робіць прыгожыя карнізы на вокны, апраravы для люстраў. Гэтае ўмельства — з дзяцінства. Дзядзька прыносіў з лесу які-небудзь сучок ці карэньчык і выштукоўваў то птушку, то змяю, то звярка *(часопіс «Вясёлка»)*.



Якія словы называюцца назоўнікамі?

Назавіце назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду. Як вызначаецца род назоўнікаў?

**76.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку.

Хлеб. Ёсць толькі адно слова, роўнае па значэнні слову «хлеб». Гэта слова «жыццё».

Пра хлеб думае сейбіт.

Пра хлеб думае інжынер, калі праектуе камбайн.

Пра хлеб думае селекцыянер[зн], калі многія гады выводзіць новыя сарты жыта ці пшаніцы.

Ніякая глыба золата не пераважыць крошку хлеба! *(Паводле Р. Раждзественскага).*

Выпішыце назоўнікі — назвы жывых і нежывых прадметаў. На якія пытанні яны адказваюць?

**77.** Прачытайце.

Сівер з поля вее.
Журыцца даліна.
Ярка палымнее
на мяжы каліна.

Ягадныя гронкі
падмарозіў іней.
І адразу селі
птушкі на каліну.

*В. Гардзей*



Як змяняюцца назоўнікі? Назавіце род і лік назоўнікаў.

Спішыце. Падкрэсліце галоўныя члены.



**78.** Прачытайце радкі з верша П. Панчанкі «Аснова» і вызначце іх асноўную думку.

Каб стаць чалавекам
у час наш суровы,
помні жыцця асновы:
гавары, як вучыла маці,
рабі, як вучыў бацька,
жыві, як добрыя людзі,
усё, на што здольны,
зрабі для Радзімы.

Спішыце. Абазначце род і лік назоўнікаў.

## ПРЫМЕТНІК ЯК ЧАСЦІНА МОВЫ

**79.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце размову двух хлопчыкаў. Дайце загаловак тэксту.



— Валерка, ці бачыў ты ўдода?

— Аднойчы толькі. Прыгожая птушка.

— Якая ж яна?

— Рыжая. З вялікім чубам на галаве.

Хвост, крылы і чуб з шырокімі чорнымі палосамі. Дзюба доўгая, тонкая, крыху загнута ўніз. Па зямлі ходзіць хутка, то нахіляе, то ўзнімае галаву і распускае чуб.

Запішыце назоўнікі ў адзін слупок, а ў другі дапішыце да іх словы ў адпаведнасці з пытаннямі:

птушка (я к а я?) …
чуб (я к і?) …
дзюба (я к а я?) …
палосы (я к і я?) …



- Што абазначаюць словы ў адным і ў другім слупку?
- На якія пытанні адказваюць словы, што абазначаюць прыметы прадметаў?



Словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў і адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я?, называюцца **прыметнікамі.**

**80.** Спішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары.

З..лень, з..лёны, з..лянец. Вяс..лая, вес..ліць, вес..лосць, вяс..лка. Ц..пло, ц..плыня, ц..плае, пац..плела.

Назавіце прыметнікі. Складзіце і запішыце з імі сказы. Зверху над прыметнікамі запішыце пытанні.

**81.** Прачытайце тэкст. Здагадайцеся, пра якую птушку ў ім гаворыцца.



У гэтай птушкі ярка-чырвоныя грудзі і брушка, спінка блакітна-попельная. На галаве чорненькая шапачка, крылы чорныя з белай палоскай, хвост чорны.

Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі.

● Прачытайце запісаны тэкст без прыметнікаў. Ці можна здагадацца, пра якую птушку ў ім гаворыцца?



Словы якой часціны мовы дапамагаюць дакладна апісаць птушку?

**82.** Прачытайце.

Невялікая палянка. Пад белай бярэзінай на пні дзяцел працуе, ежу здабывае ў гнілой драўніне.

А шустрая вавёрка адшукала на старой елцы залацістую шышку. Села на сук і ласуецца. І на снег пасыпалася рыжае лускавінне.

Выпішыце паводле ўзору прыметнікі разам з назвамі тых прадметаў, прыметы якіх яны абазначаюць.

я к а я?

У з о р: *невялікая палянка.*



**83.** Прачытайце.

Паглядзіце на сасну. Сонечнае дрэва! Ствол велічна трымае ізумрудную[зн] крону. Нават у пахмурны дзень сосны выпраменьваюць цяпло і святло. Празрыстая залацістая смала выступае на дрэве. Яна падобная на кусочак бурштыну[зн] *(Паводле Т. Горавай).*

Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі.

**84.** Да прыведзеных назоўнікаў падбярыце некалькі прыметнікаў, якія абазначаюць розныя прыметы (вусна).

У з о р: *ліст* (я к і? паводле формы) — *круглаваты, зубчасты, прадаўгаваты.*

Возера (я к о е? паводле глыбіні) — ... ,
дом (я к і? паводле матэрыялу) — ... ,
кветка (я к а я? паводле колеру) — ... ,
пакой (я к і? паводле памеру і асвятлення) — ... ,

поле (я к о е? паводле таго, што на ім расце) — … ,

ягада (я к а я? паводле смаку і месца, дзе расце) — … .



Прыметнікі абазначаюць такія прыметы прадметаў, як колер, смак, пах, памер, знешні выгляд, матэрыял, з якога зроблены прадмет, і інш.: *шэры* верабей, *салодкі* яблык, *духмяны* водар, *высокі* дуб, *шырокае* поле, *калматая* галава, *цагляны дом*.



Якую ролю ў мове выконваюць прыметнікі?

**85.** Прачытайце. Назавіце прадмет, якому ўласцівы названыя прыметы, і запішыце сказы.

(Я к і?) Цёмны, непраходны, густы — гэта … .

(Я к а я?) Халодная, хуткаплынная, горная — гэта … .

(Я к і?) Белы, пушысты, глыбокі — гэта … .

(Я к і?) Сакавіты, чырвоны, круглы, вялікі — гэта … .

(Я к о е?) Блакітнае, чыстае, высокае — гэта … .

(Я к а я?) Рыжая, хітрая, спрытная — гэта … .



Ці можна апісаць які-небудзь прадмет, не ведаючы яго прымет?

**86.** Прачытайце. Спішыце і ў дужках запішыце пытанні да прыметнікаў.

На (...?) цыркавую арэну вылецелі (...?) белыя коні. Гэта былі коні з казкі: (...?) беласрэбныя грывы і хвасты, выгнутыя дугой шыі, (...?) моцныя акруглыя крыжы[зн] (...?), пругкія ногі з (...?) глянцавітымі капытамі. Сіла і (...?) буйны нораў клекаталі ў конях *(Паводле В. Хомчанкі)*.



**87.** Прачытайце. Здагадайцеся, пра якога звера гэты тэкст.

Які гэта быў магутны звер! Цяжкае і магутнае тулава ляснога волата спераду было пакрыта густой, цёмна-карычневай поўсцю. Аграмадны, *мускулісты*, з высокім *гарбатым* каркам, ён стаяў, нібы адліты з бронзы *(У. Краўчанка)*.

Спішыце. Якія якасці звера абазначаюць прыметнікі? Разбярыце па саставе выдзеленыя словы.

## Вызначэнне прыметніка па значэнні і пытанні

**88.** Прачытайце. Якія словы з верша выражаюць яго асноўную думку?

### БАБУЛІНА ПЕСНЯ

Бабуля спявала
вячэрнюю песню:



— Расці, мой унучак,
пад сонейкам веснім,
пад сонейкам летнім,
асеннім, зімовым.
Расці ты разумным,
прыгожым, здаровым.
Хай сэрца тваё
будзе добрым і чуйным.
Яшчэ, мой няўрымслівы,
вельмі хачу я,
каб гэтую песню
і родны парог
нідзе і ніколі
забыць ты не мог.

*Н. Галіноўская*

Выпішыце прыметнікі, якія абазначаюць якасці чалавека і адказваюць на пытанне я к і м? Дапоўніце гэты рад іншымі прыметнікамі.

**89.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі і вызначце, якія з іх з'яўляюцца сінонімамі. Зверху напішыце пытанне, на якое яны адказваюць.

Пазіраю я на маму і любуюся: пекная[зн] яна. Невысокая, чорненькая валасамі і бровамі, кругленькая ў твары, вясёлая. Паглядаю я на яе і радуюся, што ні ў кога няма такой прыгожай мамы *(Г. Далідовіч)*.

**90.** Прачытайце. Назавіце сказ, які выражае асноўную думку тэксту.

Белавежская пушча — самы вялікі і стары лясны абшар[зн] у Еўропе. Тут зберагліся і высокія, аж да аблокаў, бары. І магутныя векавыя дубровы. І светлыя бярозавыя гаі. І змрочныя, нават у сонечныя дні, яловыя нетры[зн] *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі, якія адказваюць на пытанне я к і я? Якія прыметы пушчы яны абазначаюць?



**91.** Прачытайце. Спішыце тэкст і ўстаўце замест кропак прыметнікі, якія падыходзяць па сэнсе.

Любуюся ... палянай. З усіх бакоў яе абступілі ... яліны. Яны нібы баяцца скінуць са сваіх галін ... снег. Толькі ... сосны варушаць ... вершалінамі. ... цішыня пануе ў лесе.

Для даведкі: *стромкія, калматыя, пушысты, зімовай, чароўная, чубатымі.*

## Сувязь прыметніка з назоўнікам у сказе

**92.** Прачытайце. Вызначце пісьмова сувязь слоў па пытаннях.

У з о р: *родная хата.* (я к а я? — ад *хата* да *родная*)

Родны брат, родная сястра, роднае дзіця, родныя бацькі; пшанічная мука, пшанічны хлеб, пшанічнае зярнятка, пшанічныя каласы.

- Вусна складзіце з чатырма парамі слоў сказы.



У сказе прыметнікі звязаны з назоўнікамі.

Пачулася песня (якая?) вясковая — павеяла родным (якім?) цяплом (*Т. Мельчанка*).

**93.** Прачытайце верш. Вызначце яго асноўную думку.

Вечна я ўдзячны жытняму *хлебу*,
чыстай *вадзе* з невялічкай *крыніцы*,
*лесу* зялёнаму, сіняму *небу*,
светлай *рачулцы*, што ў полі бруіцца...
Людзям з адкрытай і шчырай *душою*,
з кім давялося ў жыцці мне сустрэцца,
краю, што роднай завём мы *зямлёю*,
што Беларуссю так люба завецца!

*П. Броўка*

Вызначце, якія прыметнікі звязаны з выдзеленымі назоўнікамі. Выпішыце іх паводле ўзору.

Узор: *жытняму* (якому?) *хлебу*.

**94.** Прачытайце.

У лютым вясна з зімой змагаюцца. Мяцеліцы чаргуюцца з адлігамі. Аднойчы...

Разгледзьце малюнкі і напішыце працяг казкі.



Падкрэсліце назоўнікі і звязаныя з імі па сэнсе прыметнікі. Над назоўнікамі пастаўце знак ×, а над прыметнікамі напішыце пытанні, па якіх вы вызначылі іх сувязь з назоўнікамі.



**95.** Прачытайце. Спішыце. Вызначце, з якімі назоўнікамі звязаны выдзеленыя прыметнікі, і зверху напішыце пытанні, на якія адказваюць прыметнікі.

Сувеніры з *беларускай залацістай* саломкі *вядомыя* ва ўсім свеце. Турысты, якія наведваюць Беларусь, купляюць *саламяных* лялечак-беларусачак, конікаў, *казачных* птушак. Кожны выраб *адметны* сваёй *прыгожай* формай.

## Змяненне прыметнікаў па родах. Прыметнікі мужчынскага роду

**96.** Разгледзьце табліцу.

| Я к і? **Мужчынскі род** | Я к а я? **Жаночы род** | Я к о е? **Ніякі род** |
|---|---|---|
| *вясновы дзень* | *веснавая раніца* | *веснавое неба* |
| *далёкі край* | *далёкая дарога* | *далёкае возера* |
| *сіні плашч* | *сіняя сукенка* | *сіняе паліто* |



Ад чаго залежыць род прыметнікаў?



Прыметнікі ў адзіночным ліку змяняюцца па родах. Прыметнік мае той самы род, што і назоўнік, з якім прыметнік звязаны па сэнсе: ***зялёны** лес* (м. р.), ***зялёная** раўніна* (ж. р.), ***зялёнае** дрэва* (н. р.).

**97.** Прачытайце. Вызначце род назоўнікаў і звязаных з імі па сэнсе прыметнікаў.

Па-над белым пухам вішняў,
быццам сіні аганёк,
б'ецца, уецца шпаркі, лёгкі
сінякрылы матылёк...

І ліецца хваляй песня —
ціхі, ясны гімн вясне...
*М. Багдановіч*

Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі мужчынскага роду і выдзеліце канчаткі.



Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага роду?



Прыметнікі мужчынскага роду адказваюць на пытанне я к і? Яны маюць канчаткі ***-ы, -і***: (я к і?) *зялён-**ы** бяскрайн-**і** прастор.*

**98.** Прачытайце верш. Які загаловак можна яму даць?

Ёсць такі народ працавіты,
вельмі шчыры і самавіты[зн] —
беларусы.
Ёсць такі народ памяркоўны,
і прыветлівы, і тактоўны —
беларусы.
Ёсць такі народ гераічны,
а на выгляд сціплы і звычны —
беларусы.
Ёсць такі народ неўміручы,
неадольны, вечна жывучы —
беларусы.
*А. Дзержынскі*

Назавіце прыметнікі і растлумачце іх значэнне. Выпішыце прыметнікі і выдзеліце канчаткі.



Чаму ў гэтым вершы ўсе прыметнікі мужчынскага роду і ўсе маюць канчатак ***-ы***?

**сардэ́чны**

**99.** Прачытайце. Дайце загаловак тэксту.

Звычайна людзі рэдка пра чалавека гавораць: прыгожы. Часцей кажуць добры, харошы.

Дык які ж гэта — добры чалавек?

Добры чалавек — гэта сардэчны, ...

Дапоўніце адказ на гэтае пытанне, дапісваючы адпаведныя прыметнікі. Зверху пазначце іх род.



**100.** Прачытайце. Ці можна лічыць гэты тэкст казкай?

Восенню знайшоў вожык трухлявы пень, зрабіў гняздо і заснуў.

Доўга спаў вожык ці не, сам не ведае. Але аднойчы высунуў пыску, глядзіць — вясёлы ручаёк журчыць.

— Прачнуўся сам і іншых будзіш, — папракнуў вожык. І зноў у гняздо паціснуўся, заснуў.

Раніцай прачнуўся і зморшчыўся — увесь бачок мокры. А наўкола лёгкі туманок сцелецца. У небе жаваранкі спяваюць.

— Дзякуй, добры ручаёк! Каб не ты, я вясну праспаў бы ў цёплым гняздзечку *(Паводле Я. Галубовіча)*.

Выпішыце апавядальныя сказы, у якіх ёсць прыметнікі мужчынскага роду.

## Прыметнікі жаночага роду

**101.** Прачытайце. Вызначце тэму верша.

Ёсць паляна сіняя ў бары —
у глухім, зялёным гушчары.
Чыстая, бліскучая, як люстра...
Сіняя паляна ў бары —
возера дзівоснае, сябры.

*І. Муравейка*

Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі жаночага роду і выдзеліце канчаткі.



Якія канчаткі маюць прыметнікі жаночага роду?



Прыметнікі жаночага роду адказваюць на пытанне я к а я? Яны маюць канчаткі ***-ая, -яя***: (я к а я?) *цёпл-**ая** ранн-**яя** вясна.*

**102.** Прачытайце. Вызначце род прыметнікаў.

Стужка — бялюткая,
Галя — танюткая,
як і вярбінка,
паставаю гнуткая.
Часам шумлівая,
часам маўклівая,
з мячыкам-скачыкам
толькі гуллівая.

*Я. Міклашэўскі*

Выпішыце прыметнікі і выдзеліце канчаткі.



Чаму ў вершы ўсе прыметнікі жаночага роду і ўсе маюць канчатак ***-ая***?

✷ **103.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на род назоўнікаў. Падбярыце да іх прыметнікі і запішыце словазлучэнні.

медаль (м. р.) ...
палын (м. р.) ...
пыл (м. р.) ...
боль (м. р.) ...
сабака (м. р.) ...

яблык (м. р.) ...
цень (м. р.) ...
гусь (ж. р.) ...
салата (ж. р.) ...
таполя (ж. р.) ...

**104.** Прачытайце.

Ранняя вясна. Ціхая раніца, светлая, сонечная. Лес поўніцца птушынымі галасамі. І ў гэты дружны

хор звонкім серабром уліваецца ўзнёслая, пяшчотная песня берасцянкі.

Спішыце. У дужках да прыметнікаў пастаўце пытанні, абазначце род, выдзеліце канчаткі.

У з о р: (я к а я? ж. р.) *ранн* *яя* *вясна*.



**105.** Прачытайце. Спішыце і ў дужкі ўпішыце пытанні, на якія адказваюць прыметнікі.

Раніца (...?) светлая, сонечная. (...?) Вузкая сцяжынка вядзе ў (...?) малады сасоннік. Ля (...?) невялікай затокі бачу (...?) вялікую чорную птушку. У (...?) моцнай дзюбе трымае акрайчык хлеба і палошча яго ў вадзе. Гэта крумкач — (...?) цікавая, загадкавая птушка.

## Прыметнікі ніякага роду

**106.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце род прыметнікаў. Вусна пастаўце да іх пытанні.

Прыгожая веснавая раніца. На галінках вішняку буйныя кроплі начнога туману. За сялом зялёнае жытняе поле. Неба на ўсходзе святлее. Над гарызонтам паказваецца залатое красавіцкае сонца. Танюткім звонам заліваюцца жаваранкі *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі ніякага роду і выдзеліце канчаткі.



Якія канчаткі маюць прыметнікі ніякага роду?



Прыметнікі ніякага роду адказваюць на пытанне я к о е? Яны маюць канчаткі ***-ае, -ое, -яе***: (я к о е?) *высок-**ае** веснав-**ое** сін-**яе** неба.*

**107.** Прачытайце. Вусна пастаўце да прыметнікаў пытанні і вызначце іх род.

Вечарэе. Над курганамі, над дубамі павісла залацістае неба. Цёплае паветра нагрэта за дзень шчодрым сонцам.

На ўзлеску прыемны халадок. Пахне янтарнай смалою. Ціха, спакойна. І хочацца верыць, што ніхто не парушыць навакольнае хараство *(Паводле І. Грамовіча)*.

**108.** Прачытайце. Спішыце. Пастаўце да прыметнікаў пытанні і дапішыце канчаткі.

Прайшоў (...?) цёпл.. дождж. Выглянула (...?) ласкав.. сонейка. Зазіхацелі кропелькі вады на траве. Зноў весела зазумкаў (...?) рыж.. чмель і паляцеў. Загойдаўся (...?) сін.. званочак. Быццам развітаўся з чмялём. Любачка сказала:

— (...?) Прыгож.. кветка! *(Паводле Ф. Рамашкі)*.



**109.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы адпаведныя прыметнікі. Зверху абазначце род прыметнікаў *(м. р., ж. р., н. р.)*, выдзеліце канчаткі.

1. Лебедзь белы, а воран ... .
2. Бусел вялікая птушка, а верабей ... .
3. У белага бусла апярэнне ..., а ў чорнага бусла ... .
4. Зімовы дзень кароткі, а летні ... .
5. Зіма халодная, а лета ... .

## Змяненне прыметнікаў па ліках

**110.** Прачытайце. Вызначце, у якім слупку прыметнікі маюць форму адзіночнага ліку, а ў якім — множнага.

Я к і?
*-ы* веснавы дзень
*-і* салодкі яблык

Я к а я?
*-ая* белая бяроза
*-яя* ранішняя раса

Я к о е?
*-ое* маладое дрэўца
*-яе* сіняе возера
*-ае* шырокае поле

Я к і я?
*-ыя*
веснавыя дні
маладыя дрэўцы
белыя бярозы

*-ія*
салодкія яблыкі
ранішнія росы
сінія азёры
шырокія палі



На якое пытанне адказваюць прыметнікі ў множным ліку?



Прыметнікі змяняюцца па ліках. Прыметнік мае той самы лік, што і назоўнік, з якім прыметнік звязаны па сэнсе: ***новы** дом, **лясная** дарога, **пшанічнае** поле* (адзіночны лік); ***новыя** дамы, **лясныя** дарогі, **пшанічныя** палі* (множны лік).

Прыметнікі множнага ліку адказваюць на пытанне я к і я? і маюць канчаткі ***-ыя, -ія***.

У множным ліку прыметнікі не змяняюцца па родах.

**111.** Прачытайце. Назавіце прыметнікі і вызначце іх лік.

Колеры нашай зямлі — блакітны і зялёны. Гэта край дрымучых лясоў, глыбокіх азёр. Край, куды вяртаюцца з далёкага поўдня белакрылыя буслы. Край, дзе ў пушчах пасуцца статкі магутных зуброў, дзе прыгожа цвіце сіні лён, дзе неба заўсёды чыстае *(газета «Раніца»)*.

**112.** Прачытайце.

Выглянула сонца. Радасна пырснула залатымі праменнямі. Але дробны дождж яшчэ ішоў. Сонца зайграла на мокрых лісцях дуба. А над сінім лесам каляровай дугой узнялася вясёлка *(І. Шамякін)*.

Спішыце. Пастаўце ў дужках пытанні да прыметнікаў і зверху пазначце іх лік (адз. л., мн. л.).

- Назавіце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.

**113.** Змяніце словазлучэнні паводле ўзору.

У з о р: *заняткі ў класе — класныя заняткі.*

пляцоўка для валейбола — ...
сувеніры з саломкі — ...
дом з дрэва — ...
пярсцёнак з золата — ...
паштоўкі для віншавання — ...

Вызначце лік прыметнікаў.

● З дапамогай якога суфікса ўтвораны прыметнікі *саламяны, драўляны*?

**114.** Прачытайце.

Сакавіты мурожны луг зіхацеў кветкамі. Шырока разгарнуў бялюткія пялёсткі рамонак. Крыштальнай сіняй зоркай калыхаўся на высокай ножцы васілёк. Кропелька зязюлінай слёзкі свяцілася брыльянтамі. Смалёўка стаяла ў белым венчыку. Казялец зіхацеў яркай жаўцізной *(Паводле А. Аляхновіча)*.





- Пра якія кветкі гаворыцца ў тэксце?
- Якія яшчэ лугавыя і палявыя кветкі вы ведаеце?

Выпішыце назоўнікі разам з прыметнікамі, з якімі яны звязаны па сэнсе. Абазначце род і лік прыметнікаў.



**115.** Прачытайце.

Дзень быў ясны, цёплы. Высока ў небе звінелі жаўранкі.

На ўскраінах лясоў распускаліся маладыя лісточкі бярэзінак. Жоўтыя коцікі звісалі на вербалозінах. Зялёныя лісцікі павыбіваліся ўжо на свет скрозь сухія галінкі. Прынадныя[зн] пахі разлівала ў паветры маладая чаромха *(Паводле Я. Коласа)*.

Спішыце. Падкрэсліце прыметнікі, зверху пазначце іх лік.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**116.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку верша.

Грае за вокнамі
лёгкі прамень,
смутку не ведае
сонечны дзень.

Добрым настроем,
усмешкай сустрэнь
ясны, бязвоблачны,
сонечны дзень.

*В. Жуковіч*

Запішыце верш па памяці. Падкрэсліце прыметнікі. Назавіце сярод іх сінонімы.



Якія словы называюцца прыметнікамі?

**117.** Прачытайце. Здагадайцеся па прыметах, які прадмет маецца на ўвазе. Вызначце род прыметнікаў. Пры спісванні дапішыце канчаткі і запішыце назву прадмета.

Цёпл.., летн.., грыбн.. — ... .
Шэр.., даўгавух.., палахлів.. — ... .
Светл.., прамяніст.., сакавіцк.. — ... .
Малад.., зялён.., шаўкавіст.. — ... .



- Як вызначаецца род прыметнікаў?
- На якія пытанні адказваюць прыметнікі мужчынскага, жаночага, ніякага роду?

**118.** Прачытайце.

Падарожнікі сабраліся на палянцы сярод нізенькага маладога сасонніку.

Васіль пачаў парадкаваць лясныя знаходкі. Гэта і спляценне сучкоў, што нагадвае птушку на ўзлёце. І корань, падобны на звера перад скачком.

Максім засмяяўся:

— Будзе маці на распалку[зн]. Неспакойны ты дзівак, Васіль.

— Дарэмна ты так, Максім. Неспакой Васіля — гэта жаданне ўсюды ўбачыць дзівоснае ў звычайных прадметах, — сказаў Іван Пятровіч *(К. Баразна)*.



- Што б вы сказалі пра захапленне Васіля?
- Ці ёсць у вас якое-небудзь захапленне? Раскажыце пра яго.

Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, з якімі яны звязаны па сэнсе. Зверху абазначце лік прыметнікаў.



Як змяняюцца прыметнікі?



**119.** Прачытайце.

Пад гарою расла в..рба. Пад в..рбою было люстраное акно ў з..лёнай траве. Тут пачына..ся і бег да рэчкі малы ручаёк. З узгорка да в..рбы вытапталі шырокую сце..ку. Усе прыходзілі сюды піць ваду. Ц..лае лета сіняе неба ўглядалася ў гэтае акно *(І. Грамовіч)*.

Спішыце сказы з прыметнікамі, устаўляючы прапушчаныя літары. Абазначце зверху род прыметнікаў.

## ДЗЕЯСЛОЎ ЯК ЧАСЦІНА МОВЫ

**120.** Да назоўнікаў падбярыце адпаведныя па сэнсе словы са значэннем дзеяння. Утварыце сказы, каб у іх гаварылася пра тое, хто як голас падае.

Верабей, вожык, воўк, зязюля, кот, салавей.
Вые, кукуе, мяўкае, спявае, фыркае, чырыкае.

Запішыце сказы паводле ўзору. Падкрэсліце дзейнік і выказнік як члены сказа.

Узор. *Варона* (што робіць?) *каркае*.



Словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў, называюцца **дзеясловамі.** Дзеясловы адказваюць на пытанні што робіць? што зробіць? што будзе рабіць? што рабіў? што рабілі? і інш., напрыклад: *малюе, намалюе, будзе маляваць, маляваў, малявалі.*

**121.** Прачытайце верш. Вусна пастаўце пытанні ад выдзеленых назоўнікаў да дзеясловаў.

ПРАЛЕСКА

Прыгрэла *сонейка*
на ўзлеску.
Птушыны спеў
чуваць здаля.
Стаіць і слухае
*пралеска*,
як ціха
дыхае *зямля*.

*А. Дзеружынскі*

Вывучыце верш на памяць і запішыце. Зверце напісанае з падручнікам.

**122.** Прачытайце.

Галка (...?) любіла хвіліны гэтага казачнага жыцця, калі Ядвіга Францаўна (...?) іграла. Музыка (...?)

зачароўвала яе. Яна (...?) несла Галку ў фантастычны свет. Той свет, дзе (...?) пануе адно чалавечае шчасце *(Паводле І. Новікава)*.

Спішыце і ў дужках напішыце пытанні, на якія адказваюць дзеясловы.



- Якую музыку вы любіце слухаць?
- Якіх кампазітараў вы ведаеце?

**123.** Прачытайце тэкст, устаўляючы словы, якія падыходзяць па сэнсе.

Дзяцінства Якуба Коласа ... ў Ластку. Перад ... адкрываліся ва ўсёй красе ... беларускія пейзажы. Пад шум сосен і ялін ... ён чароўныя казкі дзядзькі Антося. Сумныя мелодыі ... песень нараджалі ў душы ... сына паэтычнае пачуццё.

Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы.

Для даведкі: *народных, прайшло, прыгожыя, слухаў, лесніковага, хлопчыкам*.



**124.** Прачытайце і адгадайце загадкі.

1. Вісіць — зялёны,
   ляціць — жоўты,
   ляжыць — чорны.





2. Маленькі, удаленькі
скрозь зямлю прайшоў,
чырвоную шапачку знайшоў.



3. Хутка грызе, дробна жуе,
а не глытае.

Запішыце адну загадку (на выбар). Падкрэсліце дзеясловы, вусна пастаўце да іх пытанні.

## Вызначэнне дзеяслова па значэнні і пытанні

**125.** Прачытайце. Растлумачце сэнс назвы.

### КРЫЛАТЫЯ ПЕСНІ

Неба ззяе. І ў гэтым ззянні ляцяць з поўдня на поўнач птушыныя песні. Ніхто іх не бачыць, але ўсе чуюць.

Восенню птушкі адлятаюць маўкліва. Былі — і няма. Або крычаць маркотнымі развітальнымі галасамі. А ранняй вясной птушачкі звіняць. І радасныя песні ляцяць наперагонкі.

Вясна — вось і спяшаюцца песні на радзіму *(Паводле М. Сладкова)*.

Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы, якія адказваюць на пытанне ш т о  р о б я ц ь?

**126.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Першы камп'ютар зрабіў у 1944 годзе амерыканскі прафесар Говард Эйкен. Гэта адно з самых разумных вынаходстваў. Сэрца яго — электронная схема. Кіруе работай праграма, напісаная на спецыяльнай мове.

Камп'ютары могуць перакладаць з адной мовы на другую. Яны ўмеюць рашаць матэматычныя задачы, гуляць у шахматы і нават маляваць. Разумная машына ведае шмат гульняў. Толькі памятайце: каб не нашкодзіць здароўю, за камп'ютарам трэба сядзець 15 мінут, не болей *(часопіс «Вясёлка»)*.

Выпішыце сказы з дзеясловамі, якія адказваюць на пытанне ш т о р а б і ц ь?



Чаму камп'ютар лічаць адным з самых разумных вынаходстваў?

Ці ёсць у тэксце роднасныя словы?
Разбярыце па саставе слова *разумная.*

**127.** Прачытайце. Спішыце, падзяляючы тэкст на сказы. Падкрэсліце ў першых чатырох сказах дзейнік і выказнік. Якімі часцінамі мовы яны выражаны?

Дрэмле ў цішы жніўнага дня лес шырока раскінулі цёмна-зялёнае вецце магутныя дубы цягнуцца ў вышыню стройныя ясені бялеюць гонкімі стваламі

бярозы паветра насычана мядовым пахам ліпы лес выглядае ціхім, маўклівым *(Т. Хадкевіч)*.



**Дзеяслоў у сказе часцей за ўсё бывае выказнікам.**

**128.** Прачытайце.

1. Зноў ступаю знаёмымі сцежкамі, тымі, што крочыў на золку заўжды *(Р. Барадулін)*. 2. Лёнька тэпае побач з дзедам *(Я. Брыль)*.

Выпішыце дзеясловы, якія абазначаюць рух.

Падбярыце да іх іншыя словы, блізкія па значэнні (сінонімы). Вусна складзіце з імі сказы.



**129.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Спішыце 3–6 сказы і ў дужкі ўпішыце пытанні, на якія адказваюць дзеясловы.

Жаўрукі — найпершыя пасланцы вясны.

На Беларусь птушкі (...?) вяртаюцца з выраю ў сакавіку. Сонца яшчэ не (...?) злізала снег. Раніцаю і ўвечары (...?) кусаецца мароз. А жаўрукі (...?) пяюць ужо, (...?) звіняць над полем і лесам, над вёскамі і гарадамі. Птушкі (...?) вітаюць прыход вясны *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

## Змяненне дзеяслова па часах

**130.** Прачытайце.

З малых гадоў Таня спявала народныя песні. Зараз яна спявае ў народным ансамблі «Свята». У сакавіку ў яе сольны канцэрт. Таня будзе спяваць песні беларускіх кампазітараў пра маці.



У якім сказе дзеяслоў *спяваць* абазначае дзеянне, якое ўжо адбылося, у якім — дзеянне, якое цяпер адбываецца, і ў якім — дзеянне, што яшчэ будзе адбывацца?

Вусна пастаўце да дзеяслова пытанні.



Дзеясловы змяняюцца па часах.

Дзеясловы цяперашняга часу адказваюць на пытанні ш т о  р о б і ц ь? ш т о  р а б л ю? ш т о  р о б і ш? ш т о  р о б я ц ь? і інш.: *чытае, чытаю, чытаеш, чытаюць.*

Дзеясловы прошлага часу адказваюць на пытанні ш т о  р а б і ў? ш т о  з р а б і ў? ш т о  р а б і л і? ш т о  з р а б і л і? і інш.: *чытаў, прачытаў, чыталі, прачыталі.*

Дзеясловы будучага часу адказваюць на пытанні ш т о  з р а б л ю? ш т о  б у д у  р а б і ц ь? ш т о  з р о б і ш? ш т о  б у д у ц ь  р а б і ц ь? і інш.: *прачытаю, буду чытаць, прачытаеш, будуць чытаць.*

**131.** Прачытайце. Выпішыце спачатку дзеясловы, якія адказваюць на пытанне *ш т о  р о б і ц ь?*, потым — на пытанне *ш т о  р а б і ў?* і на пытанне *ш т о  з р о б і ц ь?*

**У з о р:** **(ш т о  р о б і ц ь?) (цяп. ч.)** *апранае, ... .*

Пеця апранае сястрычку і вядзе яе ў садзік. Учора ён таксама апранаў Таню і вадзіў у садзік. І заўтра Пеця апране сястрычку і павядзе ў садзік.

**132.** Прачытайце. Назавіце дзеясловы і вызначце іх час.

Усе мы любім свой край, тую зямлю, дзе нарадзіліся і ўзраслі. У нашай памяці навек прыжыліся і мелодыі родных песень, і мілагучная матчына мова, і спеў жаўранка, і звон пчалы.

Нашы людзі старанна (...?) аберагаюць гнёзды буслоў, (...?) збіваюць домікі для шпакоў. Дарослыя і дзеці (...?) высаджваюць дрэўцы на сядзібах і паабапал дарог. Дрэвы (...?) вырастуць і (...?) будуць цешыць вока і сэрца людзей *(Паводле К. Кірэенкі)*.

Спішыце другі абзац. У дужках пастаўце пытанні да дзеясловаў.

Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

**133.** Прачытайце. Дайце загаловак вершу.

Калі за бор садзіцца сонца
і небакрай ружовіцца,

заранка сядзе на сасонцы
і ў бок зары пакloніцца.
Маўчаць на лапках у бары
дразды і берасцяначкі.
Складае песеньку зары
вячэрняя заранaчка.

*М. Арочка*

Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы, якія адказваюць на пытанні *што робіць? што робяць?*



Чаму птушку назвалі заранaчкай?



**134.** Прачытайце. Скажыце, што вы ведаеце пра Францыска Скарыну.



Францыск Скарына — беларускі першадрукар, гонар і слава народа. Ён глядзіць на нас з глыбіні стагоддзяў. На ім доктарская мантыя[зн], берэт, з-пад якога выбіваюцца густыя доўгія валасы. Скарына сядзіць у нізкім крэсле перад разгорнутай кнігай, трымае ў правай руцэ пяро. Чалавек навукі глядзіць на нас з партрэта.

Як дэвіз і як запавет гучаць над нашай зямлёю словы Францыска Скарыны: «Бог пусціў мяне ў свет з гэтай мовай» *(газета «Раніца»)*.

Выпішыце з тэксту дзеясловы. У дужках запішыце пытанні, на якія яны адказваюць, пазначце час дзеясловаў.

## Дзеясловы цяперашняга, прошлага і будучага часу

**135.** Прачытайце верш. Як вы разумееце яго сэнс? Спішыце сказы, у якіх дзеясловы ўжыты ў цяперашнім часе.

Плача бярозка,
плача бярозка,
цякуць па сарочцы бярозавай слёзкі.
Бяжыць і бяжыць
за слязінкай слязінка.
Дрэўца пашкодзіў сякераю Дзімка.

*І. Муравейка*

● У прамым ці ў пераносным значэнні ўжыты словы *плача, сарочка, слязінка*?

**136.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Дайце яму загаловак.

Цячэ па каменьчыках ручаёк, скача з аднаго парожка на другі. Цякуць, булькаюць струменьчыкі.

**Шумяць маленькія хвалькі і бягуць чародкамі адна за адной. Срэбрам пераліваюцца ў іх кропелькі, і няма ім спачынку.**

Знайдзіце дзеясловы. Пастаўце да іх пытанні. Дзеянне якога часу абазначаюць дзеясловы?

**137.** Прачытайце словы. Размяркуйце іх на тры групы з улікам значэння часу і запішыце паводле ўзору.

У з о р: (ш т о   р а б л ю?) *малюю.*

**Малюю, спяваў, пераможа, чытаеш, выйграе, бегалі, віталі, радуюць, сустрэнем, цвіце, будзе гуляць, павітала.**

З адным словам кожнай групы складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце дзейнік і выказнік.

**138.** Прачытайце.

**У сакавіку прылятаюць да нас гракі. З населеных пунктаў вяртаюцца ў лес сарокі. У лесе гасцей сустракаюць сінякрылыя сойкі. Над палямі звініць звонкая песня жаваранка.**



У якім часе ўжыты ў тэксце дзеясловы?

Замяніце іх аднакаранёвымі дзеясловамі будучага часу. Запішыце тэкст.



**139.** Прачытайце.

Лявонка вучыцца ў першым класе. Хлопчык ужо лічыць сябе самастойным чалавекам. І Лявонкавы бацькі смела пакідаюць на сына хату. Ведаюць, што ён сам сябе дагледзіць *(Л. Чарняўская)*.

Спішыце. У дужках запішыце пытанне да дзеясловаў, а над самімі дзеясловамі пазначце час.

цяп. ч.

Узор. *Лявонка* (што робіць?) *вучыцца ў першым класе.*

**140.** Прачытайце. Які загаловак можна даць гэтаму тэксту?

Жыў на свеце ганчар. Круціў свой ганчарны круг і спяваў вясёлыя песні. Памагаў сам сабе ў працы і людзей весяліў. За гэта людзі празвалі яго вясёлым ганчаром. І посуд маладога ганчара быў вясёлы і прыгожы *(Паводле К. Каліны)*.

Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы. Чаму ўсе яны ўжыты ў форме прошлага часу?

✷ **141.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Наступіць ціхая вясновая раніца. Узыдзе сонца. Прачнецца птаства. У ціхай затоцы[зн] будзе гуляць

рыба. Будуць гойдацца сцяблінкі аеру. Абмытая расой трава будзе свяціцца роўным зялёным бляскам.

У якім часе ўжыты ў тэксце дзеясловы? Замяніце іх дзеясловамі цяперашняга часу. Запішыце тэкст.

- Першы сказ разбярыце па членах сказа (вусна).

**142.** Разгледзьце малюнак. На якую ён тэму?



Паводле малюнка складзіце 5—6 сказаў, каб атрымаўся тэкст тыпу апавядання. Падкрэсліце дзеясловы і зверху пазначце іх час.



**143.** Прачытайце.

Вясновы дзень год корміць.

Шчыруюць людзі. Тысячы дарог вядуць у поле, у *цяпліцу*, у сад. Спяшаюцца сяляне, робяць сваю *адвечную* працу: аруць, сеюць, выганяюць жывёлу на пашу.

Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы і зверху пазначце іх час. У выдзеленых словах абазначце іх часткі.

**144.** Прачытайце.

У кожнай пары года свая, непаўторная песня.

Паслухаем, якая яна ў лета.

Бяжыць гарэзлівы ручаёк. Шуміць на вадаспадзе. Драбіцца на вясёлыя пырскі. Ну чым не песенька?

Прыляціць ветрык на сенакосны луг. Пакружыць над духмянымі краскамі. Пагуляе са стракатымі матылькамі. Пасвавольнічае: падхопіць парашуцікі дзьмухаўцоў і падніме ўгору, быццам белую пушыстую аблачынку. Праўда, новая песня? *(часопіс «Вясёлка»)*.

Выпішыце ў адзін слупок дзеясловы цяперашняга часу, а ў другі — будучага.



Дзеясловы якога часу ўжываюцца пры апісанні падзей, якія адбываюцца, і падзей, якія будуць адбывацца?

**145.** Прачытайце.

А на дварэ была вясна. Свяціла красавіцкае сонца. Весела, звонка ценькалі сініцы. Біліся на сметніку задзірыстыя вераб'і. Прырода жыла па сваіх спрадвечных законах *(Л. Левановіч)*.

У якім часе ўжыты дзеясловы? Замяніце іх аднакаранёвымі дзеясловамі цяперашняга часу. У першым сказе апусціце слова *была*. Запішыце тэкст.

**146.** Разгледзьце малюнак. Паводле яго складзіце і запішыце некалькі сказаў на тэму «У вольны час».





**147.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Растлумачце іх сэнс.

1. Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей. 2. Рана загоіцца, а злое слова ніколі. 3. Пасмяяўся кацёл

з гаршка, што той чорны. 4. Лень зробіць чалавека падобным на пень. 5. Добра працуеш — павагу маеш.

Спішыце прыказкі і прымаўкі ў такім парадку: спачатку сказы з дзеясловамі цяперашняга часу, затым — з дзеясловамі прошлага, а пасля — будучага часу.

## Вызначэнне часу дзеяслова па пытанні

**148.** Прачытайце.

Згінулі *сцюжы, марозы, мяцеліцы,*
болей не мерзне *душа* ні адна,
сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю
абдаравала зямельку *вясна.*

*Рэчкі* бурлівыя, учора санлівыя,
сёння ўсталі, плывуць і бурляць;
*рыбкі* шмыглівыя скачуць, купаюцца,
к небу прыветна з вадзіцы глядзяць.

*Я. Купала*

Пастаўце пытанні ад выдзеленых слоў да дзеясловаў і вызначце іх час.



Чаму паэт у першым слупку ўжыў дзеясловы прошлага часу, а ў другім — цяперашняга?

Назавіце словы з памяншальна-ласкальным значэннем.

✷ **149.** Прачытайце. Вызначце час дзеясловаў.

**Стаяў цудоўны чэрвеньскі дзень.**

**У прамянях сонца трымцела паветра. Павяваў лагодны ветрык, разносіў пах кветак і раслін. Хвалі каласістага жыта плаўна хадзілі па полі.**

**У ясным небе звінелі жаўранкі. У канцы вёскі хлапчукі ганялі мяч. Яны бегалі, крычалі, шумелі *(Паводле Я. Зазекі)*.**

Спішыце, змяняючы дзеясловы так, каб дзеянне адбывалася ў момант гутаркі.

**150.** Разгледзьце малюнкі. Дайце імя дзяўчынцы і на аснове малюнкаў складзіце невялікі тэкст. Запішыце яго і па пытаннях вызначце час дзеясловаў.






**151.** Прачытайце смяшынку.

Настаўніца выклікала вучня і запытала:

— Калі я гавару: «Я купаюся, ты купаешся, ён купаецца, мы купаемся», — то які гэта час?

Вучань падумаў і сказаў:

— Лета.



Як дапамагчы вучню знайсці правільны адказ?



**152.** Прачытайце народныя прыметы надвор'я.

1. Салавей звонка заспявае — вада з палеткаў пойдзе на спад. 2. Зязюля кукуе — пацяплее. 3. Майскія жукі (хрушчы) вечарам лятаюць і гудуць — будзе гожы дзень. 4. Свойскія жывёлы мала п'юць вады, днём спяць — пойдзе дождж. 5. Вечарам і ноччу з'яўляецца туман — надвор'е палепшыцца. 6. Калі пры чыстым, блакітным, бяздонным небе наготкі і мальвы старанна склалі свае пялёсткі — хутка пойдзе дождж.

Спішыце чатыры сказы. Падкрэсліце дзеясловы і зверху пазначце іх час.



Чаму ў другой частцы прымет заўсёды ўжываюцца дзеясловы будучага часу?

## Дзеясловы адзіночнага і множнага ліку

**153.** Прачытайце. Параўнайце выдзеленыя дзеясловы. Вызначце, у якіх сказах яны абазначаюць дзеянне аднаго прадмета, а ў якіх — дзеянне двух і больш прадметаў.

Вясной хлопчык *пасадзіў* клёнік. Дрэўца добра *прынялося*. Вучань *пабяліў* яго ствол. Клёнік *вырасце*.

Вясной хлопчыкі *пасадзілі* клёнікі. Дрэўцы добра *прыняліся*. Вучні *пабялілі* іх ствалы. Клёнікі *вырастуць*.



Як змяняюцца дзеясловы?



Дзеясловы змяняюцца па ліках.

У адзіночным ліку дзеяслоў абазначае дзеянне аднаго прадмета і адказвае на пытанні што раблю? што робіш? што рабіў? што рабіла? што зробіць? і інш.: *чытаю, чытаеш, чытаў, чытала, прачытае*.

У множным ліку дзеясловы абазначаюць дзеянне двух і больш прадметаў і адказваюць на пытанні што робім? што робіце? што робяць? што рабілі? што зробяць? і інш.: *чытаем, чытаеце, чытаюць, чыталі, прачытаюць*.

**154.** Прачытайце верш. Вызначце яго тэму.

Заглядзяцца пралескі ў люстра крыніцы,
ажывуць сасnякі, і па свежай траве
прыйдзе лось баязлівы спакойна напіцца,
і зальецца ў цішы баравой салавей.

*А. Бачыла*

Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы і вызначце іх час. Чаму адны з іх ужыты ў адзіночным ліку, а іншыя — у множным?

✸ **155.** Прачытайце сказы, устаўляючы замест кропак адпаведныя дзеясловы. Дакажыце, што сказы ўтвараюць тэкст.

Хлопцы *(што робяць?)* ... хаткі для птушак. Яны *(што зрабілі?)* ... матэрыял для птушыных домікаў. Жэня *(што робіць?)* ... дошчачкі. Славік *(што робіць?)* ... дэталі. Алёша і Санька *(што робяць?)* ... шпакоўні і сінічнікі.

Птушкі *(што зробяць?)* ... і *(што зробяць?)* ... новыя домікі. Яны *(што будуць рабіць?)* ... усіх вясёлымі спевамі.

Для даведкі: *будуць радаваць, выбралі, выразае, габлюе, заселяць, збіваюць, майструюць, прыляцяць.*

Запішыце сказы. Зверху абазначце лік дзеясловаў.

**156.** Прачытайце. Вызначце тэму верша. Прыдумайце яму назву.

Як толькі выходны дзянёк настае,
ён вуды і снасці збірае свае.
І досвіткам раннім на бераг ідзе,
і ціха спускаецца к цёмнай вадзе.

Стаіўшыся ў дзікім густым лазняку,
ён вуды свае закідае ў раку.
А там, адліваючы срэбнай луской,
бліскучыя рыбы ідуць чарадой.

*П. Глебка*

Спішыце першы слупок.



Чаму ўсе дзеясловы ў ім ужыты ў адзіночным ліку?



**157.** Прачытайце.

БЯРОЗКА

Яе прынеслі дзеці з гаю
і пасадзілі, каб расла.
Вясёлая і трапяткая
стаіць бярозка ля акна.

Гляджу я на яе, дзіўлюся —
і свой благаслаўляю лёс:
я нарадзіўся ў Беларусі,
між гэтых казачных бяроз.

*А. Жук*

Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы і зверху абазначце іх лік.



Чаму паэт назваў бярозку *вясёлай* і *трапяткой?*

**158.** Прачытайце, устаўляючы на месцы пропускаў дзеясловы, якія адпавядаюць сэнсу сказа.

Спрытна, бадзёра ... Вавёрка з галінкі на галінку. Убачыў яе Заяц і ...:

— Чаму ты такая заўсёды вясёлая?

— А таму, што работы многа, работа прыемная. Арэшкі ..., у дупло ..., грыбы ..., на зіму ... . Ні адну справу на заўтра не ... . З суседзямі не ..., зімою прыпасамі ... . Задумаўся Заяц (*часопіс «Вясёлка»*).

Для даведкі: *пытае, збіраю, скача, сушу, нашу, дзялюся, сварuся, адкладваю, шукаю.*



- Ці можна назваць гэты тэкст казкай?
- Якой убачыў Заяц Вавёрку і пра што ў яе запытаўся?
- Што адказала Вавёрка?
- Як Вавёрка жыве з суседзямі?
- Чаму задумаўся Заяц, паслухаўшы Вавёрку?

Запішыце адказ Вавёркі. Вызначце час і лік дзеясловаў.



Чаму ўсе дзеясловы ў гэтым тэксце ўжыты ў форме цяперашняга часу адзіночнага ліку?

**159.** Прачытайце.

Дапытлівыя падарожнікі прывезлі з далёкай Амерыкі цудоўную кветку. Заморскую прыгажуню кветкаводы высаджвалі ў цэнтры клумбы. Кветка трымалася на прамым тоўстым сцябле. Яна любіла цяпло і заўсёды паварочвала свой твар да сонца. Людзі назвалі кветку сланечнікам *(Паводле Я. Пермяка)*.

Выпішыце сказы з дзеясловамі адзіночнага ліку.

**160.** Прачытайце.

У навальніцу з дрэва вецер сарваў шпакоўню. Яна павісла ў паветры. Кружацца, хвалююцца шпак і шпачыха.





Доўга глядзеў на іх Косця. Тады ён да мамы... *(З. Бандарына)*.

Складзіце працяг апавядання. Прыдумайце загаловак. Запішыце тэкст.

Па пытанні вызначце дзеясловы, іх лік і час.



**161.** Прачытайце. Дайце загаловак тэксту.



Раненька ўстала мая сястрычка — і хутчэй да акна. Цікава, ці прачнулася цыкорыя? Гэтая прыгожая кветка расце пад акном. У яе блакітныя пялёсткі.

Рана прачынаецца цыкорыя. Ведае дзяўчынка: глядзіць блакітная кветачка ў акно — будзе сонца. Не раскрыла кветка пялёсткі — дзяўчынка сумуе: пойдзе дождж.

Сёння глянула дзяўчынка ў акно і ўзрадавалася. Будзе сонейка! *(Паводле Ф. Рамашкі)*.

Спішыце два апошнія абзацы. Падкрэсліце дзеясловы, абазначце зверху іх лік і час.

## Змяненне дзеясловаў прошлага часу па родах

**162.** Прачытайце. Назавіце род і лік выдзеленых назоўнікаў. Пастаўце ад іх пытанні да дзеясловаў і вызначце іх час.

1. Стаяў першы такі ясны і цёплы пасля зімы *дзень*. 2. У самым зеніце стаяла *сонца*. 3. Схіліўшыся над самай вадой, стаяла *вярба*. 4. А далей на абрывістым пясчаным беразе стаялі старыя *сосны*.



Як змяняецца дзеяслоў *стаяць* у прошлым часе?



**Дзеясловы прошлага часу змяняюцца па ліках, а ў адзіночным ліку — і па родах.**

**163.** Прачытайце. Назавіце асноўную думку тэксту.

Прыгожанькая светлая дзяўчынка ламала з куста маладыя галінкі. Адна галінка не паддавалася, і дзяўчынка злавалася.

Каля дзяўчынкі прыпыніўся сівы мужчына.

— Не паддаецца, — ціхім сумным голасам сказаў ён. — Бачыш, слёзы цякуць? Толькі ўбачыла вясновае сонца — і ўжо памірае.

Дзяўчынка спрабавала прымайстраваць галінку. Не атрымалася. І яе вачаняткі напоўніліся слязьмі.

Яна штосьці зразумела *(Паводле А. Казаннікава)*.

Назавіце дзеясловы прошлага часу адзіночнага ліку. Пастаўце да іх пытанні і вызначце род.

**164.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму.

Змоўклі перуны. Маланкі перасталі разрываць неба. Дождж парадзеў, а неўзабаве і зусім спыніўся. Вецер суціх. Хмара хутка пасвятлела, паднялася вышэй і *паплыла* далей. *Выглянула* сонца.

Выпішыце сказы з дзеясловамі прошлага часу адзіночнага ліку. Абазначце род дзеясловаў.



У прамым ці ў пераносным значэнні ўжыты выдзеленыя словы?

● Вусна прыдумайце такія сказы, каб выдзеленыя дзеясловы мелі іншае значэнне.

**165.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту.



**Я спяшаўся і звярнуў з прысад[зн] на звілістую цвёрдую сцежку.**

**— Дзядзечка! — пачуўся тонкі галасок. Я спыніўся, паглядзеў навокал. Ля высокай тоўстай бярозы стаяла дзяўчынка гадоў дзесяці.**

**— Што там такое? — абазваўся я.**

**— Шпачок з гнязда выпаў. Ён яшчэ маленькі, не лётае. А гняздо высока *(Паводле І. Вярыгі)*.**



- Што ўбачыла дзяўчынка?
- Чаму яна клікала на дапамогу незнаёмага чалавека?
- Што б вы зрабілі на месцы дзяўчынкі?

Разгледзьце малюнак, скажыце, чым усё скончылася.

Спішыце першыя тры абзацы. Падкрэсліце дзеясловы. Вусна пастаўце да іх пытанні і вызначце лік і род.



**166.** Прачытайце пачатак легенды. Падумайце, якім можа быць яе працяг.

Дзяўчынка спявала. І ляцела чароўная песня па шырокіх далінах. Спынялася і слухала яе белая хмарка. Забываў пра паляванне дзікі звер. Не шумела горная рака. Не шчыпаў галінкі алень. Заціхаў няўрымслівы вецер. Замаўкала птушка.

Але аднойчы неба пачарнела, заблiскала маланка, загрымеў гром. Ды не спалохалася дзяўчынка... *(Паводле Т. Курыла).*

Спішыце першы абзац. Абазначце час і род дзеясловаў.

## Правапіс *не* з дзеясловамі

**167.** Прачытайце. Параўнайце прыказкі і скажыце, якi сэнс яны маюць у першым і другім слупках. Што надае ім супрацьлеглае значэнне?

1. Хто працуе, той мае.
2. Арэх раскусіш — зерне з'ясі.
3. Хто ў бядзе быў, той і праўдзівых прыяцеляў знае.

1. Хто не працуе, той не мае.
2. Арэх не раскусіш — зерне не з'ясі.
3. Хто ў бядзе не быў, той і праўдзівых прыяцеляў не знае.

Спішыце прыказкі правага слупка і падкрэсліце дзеясловы з ***не***. Звярніце ўвагу, як пішацца ***не*** з дзеясловамі.



***Не*** з дзеясловамі пішацца асобна.

**168.** Прачытайце. Растлумачце сэнс прыказак. У якіх выпадках іх можна выкарыстоўваць у мове?

1. Хто *(не)* працуе, таму *(не)* шанцуе. 2. Хто з кніжкай дружыць, той ніколі *(не)* тужыць. 3. Хто пчол *(не)* даглядае, той мёд *(не)* спажывае. 4. Няпраўдай свет пройдзеш, ды назад *(не)* вернешся. 5. Пра лугі *(не)* забудзеш — без сена *(не)* будзеш. 6. Не люба — *(не)* знайся, *(не)* хочаш — *(не)* вадзіся.

Спішыце, раскрываючы дужкі.

✷ **169.** Складзіце і запішыце некалькі сказаў на тэму «Сапраўдны сябар (сяброўка)». Выкарыстайце дзеясловы з ***не***.

Для даведкі: *(не) забудзе, (не) падвядзе, (не) пакіне, (не) падлізваецца, (не) падманвае, (не) шкадуе.*

**170.** Прачытайце выразна верш.

Пасадзіў я арабінку,
хай вялікая расце!
Папрасіў цішком хмурынку:
— Палівай яе часцей.
Папярэдзіў потым вецер:
— Слухай і не забывай —

не ламай ты дрэўцу вецце
і дадолу не згінай.
Сонца, грэй ты арабінку,
не шкадуй свайго цяпла,
каб яна не мерзла ўзімку
і каб хуценька расла.

*Н. Галіноўская*

Выпішыце дзеясловы з ***не***. Вусна пастаўце да іх пытанні.



**171.** Прачытайце тэкст, устаўляючы патрэбныя па сэнсе словы. Дайце тэксту загаловак. Растлумачце значэнне слова *шанаваць.* Знайдзіце ў тэксце словы, блізкія яму па значэнні.

Бацькі і старэйшыя людзі прывучылі нас, малых, шанаваць усё жывое.

— *(Не)* ... травіцу, беражы яе, хадзі сцежкай! Трава вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам, каню. *(Не)* ..., *(не)* ... дубочка або сасонкі! Яны вырастуць вялікія і пойдуць на хату або на шафу.

— Асцярожна рві яблыкі, *(не)* ... галінку! Дрэва будзе хварэць.

— Праз жыта *(не)* ... ! Калі патопчаш яго, будзе менш хлеба *(Паводле У. Дубоўкі)*.

Для даведкі: *ламі, паламі, тапчы, хадзі, чапай.*

Спішыце тыя сказы, дзе ёсць дзеясловы з ***не***.

- Растлумачце знакі прыпынку ў канцы сказаў.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**172.** Прачытайце. Да якіх часцін мовы адносяцца выдзеленыя словы? Абгрунтуйце свой адказ.

— Сынку, сынку,
каб ты *ведаў*:
у цябе так мала *ведаў*.
Ты ж не вучышся старанна.

*А. Дзеружынскі*



Якія словы называюцца дзеясловамі?

**173.** Прачытайце смяшынку.

— Я кашляю моцна,
ты кашляеш моцна,
які час,
ці ведаеш,
Вова?

І вучань
настаўніку
ўпэўнена кажа:
— Я ведаю —
час зімовы.

*А. Дзеружынскі*

Выпішыце дзеясловы паводле ўзору.

У з о р: (ш т о р а б л ю?) *кашляю.*



- Як вызначыць час дзеяслова?
- На якія пытанні адказваюць дзеясловы цяперашняга часу?

**174.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Выпішыце сказы, у якіх дзеясловы ўжыты ў будучым часе. Пастаўце да іх пытанні (вусна).

1. Хто са мною пасябруе,
той ужо не засумуе.
Языка хоць і не маю,
а пра ўсё апавядаю.

2. Як прывяжаш — ён бяжыць.
Як адвяжаш — ён стаіць.

*М. Пазнякоў*



На якія пытанні адказваюць дзеясловы будучага часу?

**175.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы. Пастаўце да іх пытанні і вызначце час і род.

Сцежачка ішла праз алешнік. Андрэйка не глядзеў пад ногі і наляцеў на востры сук. Ускрыкнуў і закульгаў далей.

Але праз колькі крокаў спыніўся і падумаў: іншыя таксама могуць параніць нагу. Вярнуўся, прыбраў сук са сцежкі і пакульгаў да рэчкі *(Л. Чарняўская)*.



На якія пытанні адказваюць дзеясловы прошлага часу?



**176.** Прачытайце.

Па дарозе ў лес разгаварыліся Міколка з Касцікам пра поры года.

— Я восень і зіму люблю, — сказаў Міколка. — Увосень дрэвы прыгожыя: і зялёныя, і жоўтыя, і чырвоныя. А зімою снег бялюткі і вецер свішча.

— А я люблю вясну і лета, — прызнаўся Касцік. — Вясной, як сонца прыгрэе, ручайкі забулькаюць, зазвіняць. А летам — кветкі ўсюды. У лесе птушкі спяваюць *(Паводле А. Капусціна)*.

Выпішыце дзеясловы паводле ўзору.

У з о р: (ш т о з р а б і л і?) *разгаварыліся* — *пр. час, мн. л.*

# ПАЎТАРЭННЕ

**177.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту. У якім сказе яна выражана?

Палымнеў усход. Лес ажывіўся радаснымі песнямі, вясёлым піскам птушак.

Косця разгледзеў у кусце пад самай клеткай салаўя. Ён то высвістваў на розныя лады, то вышчоўкваў, то заліваўся ў забыцці. Пяшчотныя пераходы ад аднаго тону да другога зачароўвалі. Хлопчык стаяў, затаіўшы дыханне. А дзед слухаў песню з заплюшчанымі вачамі.

Нарэшце Косця не вытрымаў і ўсхвалявана загаварыў:

— Дзядуля, давайце не будзем яго лавіць. Няхай ён спявае для ўсіх людзей. Лепш я сам буду сюды прыходзіць *(Паводле Я. Зазекі)*.

Напішыце, з якой мэтай дзядуля і Косця пайшлі ў лес і чым закончыўся іх паход.

**178.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс гэтага тэксту? Якая яго асноўная думка?

Прыглядаюся да к..ласоў. Вось к..лас высокі, зухаваты, закаханы ў самога сябе. Кранула ас..ярожна рукою, а ён пусты.

Малы, каржакаваты к..лас — по..ны.

Сонца іх аднолькава гр..ла. З..мля іх паіла з аднаго і таго ж ку..ка. Ды розныя выраслі к..ласы *(С. Лобач)*.

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

**напрадве́сні**

**179.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Як вы разумееце выразы *бязлітасная рука, зялёны ўбор*?

Напрадвесні я ішоў знаёмай сцяжынкай і спыніўся перад свежым пнём. Чыясьці бязлітасная рука ссекла бярозку. Адсечаны верх ляжыць на снезе.

У пачатку мая я зноў крочыў той жа сцяжынкай. Бярозы надзелі на гнуткія галіны зялёны ўбор. У вышыні заліваўся жаўранак. З узлеску даносілася песня берасцянкі. Але больш за ўсё мяне ўразіла ссечаная бярозка.

Верх яе таксама быў укрыты зялёным лісцем. Лежачы на зямлі, бярозка распусцілася, каб апошні раз прывітаць вясну *(Паводле І. Сіляўкі)*.

Выпішыце з першых дзвюх частак назоўнікі і звязаныя з імі па сэнсе прыметнікі. У дужках пазначце род і лік прыметнікаў.



**180.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Эх, як я любіў песні!

Мабыць, з той пары, як засынаў пад спеў калыханкі. Яна пр..носіла спакой і сон, в..сялосць і радасць. Яна непрыкметна пранікала ў душу.

Чаму ..эта некаторыя абыякавыя да песні? *(Паводле І. Грамовіча).*

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

**181.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст тыпу апавядання. Якая яго асноўная думка? Перадайце змест казкі 4—5 сказамі. Запішыце іх.

### ВІШАНЬКА

Адцвіла вясной вішня, і паспела на ёй адна вішанька.

— Вось прыедзе ўнучка, пачастуем яе, — гаворыць баба дзеду.

Паспела вішанька, а ўнучка ўсё не едзе і не едзе. Вераб'і склявалі вішаньку, адна костачка засталася. Засмуціліся дзед з бабай.

Наступіла зіма. Сядзяць дзед з бабай каля акна, глядзяць на костачку ад вішанькі і думаюць:

— Зіма пройдзе, наступіць лета. Можа, паспее другая вішанька. Прыедзе ўнучка — пачастуем яе вішанькай *(Паводле Ю. Сцяпанава).*

**182.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту.

На высокай бярозе я ўбачыў дзятла. Малога, стракатага, з чырвоным берэцікам на патыліцы. Спіна і крылы ў яго чорныя з белымі папярочнымі палосамі і плямамі. Брушка белае, з вохрыстым адценнем і бурымі падоўжнымі штрыхамі *(Я. Галубовіч)*.

Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі. Зверху абазначце іх род і лік.

**183.** Разгледзьце малюнкі. Стварыце паводле іх тэкст.







Тэкст якога тыпу у вас атрымаўся? Чым вы гэта растлумачыце?



**184.** Прачытайце словы. Складзіце з іх сказы і запішыце.

мяне, праз, в**я**дзе, вузкая, жытнёвая, сц**я**жынка, поле

шапоча, зб**а**жына, ціха

утрымліваюць, з, к**а**ласы, буйныя, вусатыя, сцяблінкі, цяжкасцю

промні, іх, сонца, яркія, песцяць

толькі, вецер, хлебную, ціхавейны, ніву, варушыць, зрэдку

Ці ўтвараюць запісаныя сказы тэкст? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

- Растлумачце напісанне выдзеленых літар.
- Графічна абазначце часткі ў словах *вусатыя, сцяблінкі.*

Рм **185.** Прачытайце легенду.

Блукаў па свеце стары сляпы чалавек з хлопчыкам-павадыром. Шукаў дапамогі ад слепаты, але збавення не наступала.

І вось аднойчы прывёў яго хлопчык у бярозавы гай. Гэты гай быў пранізаны сонечным святлом. У ім струменіўся крыштальны чысты ручай. З зямлі біла свежая крынічка.

Вандроўнікі напіліся халоднай вады. Потым хворы стары чалавек акрапіў ёю свае вочы. І здарыўся

цуд — перад ім адкрыўся ва ўсім сваім харастве навакольны свет. У падзяку за сваё вылячэнне стары вандроўнік пабудаваў у бярозавым гаі кляштар[зн]. З яго і пачаўся горад Бяроза.

Напішыце пераказ легенды.

**крышта́льны**

Прыкладны план
1. Стары сляпы чалавек.
2. Бярозавы гай.
3. Гаючая вада.
4. І пачаўся горад Бяроза.

У другім абзацы запісанага вамі тэксту падкрэсліце хвалістай лініяй прыметнікі. Абазначце іх род.

**186.** Прачытайце словы. Складзіце з іх сказы. Запішыце сказы і вызначце ў іх аснову.

вярба, гарою, пад, расла
зялёнай, траве, у, вярбою, пад, крыніца, была
прыходзілі, ваду, сюды, усе, піць
сіняе, летам, неба, углядалася, крыніцу, у
рэдкая, клубілася, ёю, зімой, пара, над
глыбокім, дыхала, у, снезе, крыніца, гэта



- Што выражае сказ?
- Як звязаны паміж сабой словы ў сказе?
- Як вызначаецца сэнсавая сувязь слоў у сказе?
- Ці ўтвараюць гэтыя сказы тэкст?

**187.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Стаіць прыгожая веснавая раніца. На лістах вішняку вісяць буйныя кроплі туману. Узыходзіць сонца. Над хатамі вывіваюцца лёгкія дымкі. Лес поўніцца густымі пахамі. У небе танюткім звонам заліваюцца жаўранкі *(Паводле Я. Скрыгана)*.

Вызначце ў чацвёртым і пятым сказах словы, якія пашыраюць аснову сказаў.

У з о р: (ш т о?) *кроплі* (ш т о р о б я ц ь?) *вісяць*,
*кроплі* (ч а г о?) *туману*,
*кроплі* (я к і я?) *буйныя*,
*вісяць* (н а ч ы м?) *на лістах*,
*на лістах* (ч а г о?) *вішняку*.

**188.** Вусна падбярыце да назоўнікаў адпаведныя дзеясловы. Ці ўтвараюць яны сказы? Дапоўніце іх іншымі словамі, якія пашыраюць аснову сказаў. Запішыце гэтыя сказы. Падкрэсліце хвалістай лініяй дадания члены.

Ветрык, вясна, мурашкі, пупышкі, сонейка, траўка, чаромха, шпакі.

Наступіла, зелянее, павявае, паўзуць, прыляцелі, прыгравае, распускаюцца, цвіце.

У з о р. *Ветрык павявае. — Над лугам павявае цёплы ветрык.*



**189.** Прачытайце. Спішыце першыя чатыры сказы. Над словамі, што пашыраюць аснову сказа, напішыце зверху пытанні, на якія яны адказваюць.

У з о р.

адкуль? — якія? — якія?

*З бутонаў выглянулі духмяныя прыгожыя кветкі.*

Вясною мама пасадзіла куст ружы. Васілёк дапамагаў маме. Хмарка напаіла кусцік дожджыкам. На ружы з'явіліся зялёныя лісточкі. Лісточкі хутка падрасталі. Разам з лісточкамі падрасталі пупышкі. Пупышкі ператварыліся ў бутоны. З бутонаў выглянулі духмяныя прыгожыя кветкі.

**190.** Прачытайце. Растлумачце выраз *«зайчыкаў хлеб»*.

Жыве ў *цёмным* лесе
*спагадлівы зайчык*,
каго ні сустрэне,
дасць хлеба *акрайчык*.
З поля вяртаюцца
тата і мама
і *зайчыкаў* хлеб
нам прыносяць таксама.

*П. Граніт*



● Падбярыце да слова *спагадлівы* блізкія па значэнні словы.

Запішыце выдзеленыя словы і абазначце ў іх усе часткі.

**191.** Прачытайце.

1. Узняў званочкі мудры лён,
Чуе ветрык іхні звон.
*Н. Галіноўская*

2. Шчаслівы я. І шчасце маё ў тым,
што свой я і бярозам, і аблокам,
і людцам — і старым, і маладым.
*А. Жыгуноў*

3. Упадуць сёння першыя травы
пад касой ля туманнай ракі.
Касавіца.
Чаканае свята.
Выйдзе чэрвень з касцамі на луг.
*М. Башлакоў*

Спішыце. Падкрэсліце аднакаранёвыя словы. Вусна разбярыце іх па саставе.

**192.** Прачытайце. Выпішыце ўсе словы з прыстаўкамі, якія заканчваюцца на зычны. Растлумачце іх напісанне.

Лета — чароўная пара. Цёплымі дажджамі абмывае зеляніну чэрвень. Зямля дыхае на поўныя грудзі. У жоўтых накідках зачаравана застылі ліпы. Пчолы збіраюць сваю багатую даніну. Адцвітае акацыя. Ужо і жыта адкрасавала. Жытнёвае поле нібы

бяскрайняе мора. Па ім пераліваюцца бясконцыя хвалі. І няма ім ні канца ні краю. Пахне мёдам, спелым хлебам *(газета «Звязда»)*.



**193.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Абазначце часткі ў выдзеленых словах.

Шырокія прасторы палёў ра..кінуліся перад вачыма дз..цей. На *бя..межных* абшарах — зал..тая пш..ніца. З краю ў край бя..концай чарадой каціліся пазал..чаныя сонцам хвалі *зб..жыны*. *Вусатыя* буйныя к..ласы схіліліся над дарогай і нібы кланяліся *(Я. Бяганская)*.

**194.** Прачытайце верш. Назавіце яго асноўную думку.

Калі б нарадзіўся я мастаком,
я маляваў бы рукі:
і тыя, што ўзводзяць сонечны дом,
і тыя, што водзяць па струнах смычком,
каб выкрасаць вабныя[зн] гукі;
і тыя, што засяваюць палі,
і тыя, што крышаць каменне,
і тыя, што ў космас вядуць караблі,
і тыя, што шыюць адзенне,
і тыя, што сцяг у атаку нясуць,
і тыя, што пішуць раманы,

і тыя, што ў мірным агні пякуць
надзённы хлеб наш духмяны.
Намаляваў бы мільярды я рук —
белых, жоўтых і чорных.

*Хв. Жычка*

Скажыце, рукі людзей якіх прафесій і спецыяльнасцей намаляваў бы мастак.

Запішыце іх назвы асобным слупком. У другі слупок выпішыце прыметнікі, у трэці — дзеясловы.



Якія словы называюцца назоўнікамі, якія — прыметнікамі, якія — дзеясловамі?

**195.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Шмат на нашай зямлі курганоў. Назвалі іх Курганамі Славы. Гэтыя два словы ўвабралі ў сябе павагу і любоў да роднага краю, да нашых продкаў. На Курганах Славы ўзвялі помнікі, абеліскі, каб ушанаваць тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду і шчасце нашай зямлі *(Паводле У. Аляхновіча)*.

Спішыце. Падкрэсліце па тры назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду і зверху пазначце іх лік.



Як вызначаецца род назоўнікаў, якія з іх ужыты ў тэксце ў форме множнага ліку?

**196.** Прачытайце.

Усход чырванеў вузкай палоскай. Вышэй вісела кучаравае воблака з жоўтым бокам. Над ім блішчаў чырвоны след самалёта. Вада яшчэ захоўвала свой сіні колер. І вось прамяні сонца зайгралі на хвалях. Мора засвяцілася зыркім блакітам.

Выпішыце назоўнікі і звязаныя з імі па сэнсе прыметнікі. Абазначце зверху род і лік прыметнікаў.



**197.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку верша.

Любіце травы, дрэвы, рэкі,
прастор палёў, блакіт нябёс,
цаніце Працу, Чалавека, —
і Бог вам дасць спагадны[зн] лёс.
А каб цанілі вас у свеце, —
(я лепшых слоў не падбяру), —
шануйце дзіва на планеце —
святую нашу Беларусь.
І мову Коласа, Купалы
вы беражыце з роду ў род,
каб наша воля не прапала,
каб не загінуў наш народ.

*А. Ставер*

Выпішыце назоўнікі, якія ўжыты ў множным ліку. Зверху абазначце іх род.

Ахарактарызуйце сказы паводле мэты выказвання.

**198.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму.

## І РАСЛІНЫ СПЯВАЮЦЬ

У музычных крамах Англіі нядаўна з'явіўся незвычайны кампакт-дыск. На ім запісана музыка пятрушкі, гарчыцы і канюшыны. Батанік Лонг даследавала малекулярную[зн] структуру[зн] раслін. Лонг адкрыла ў іх здольнасць спяваць. Асобныя ланцужкі пратэінаў[зн] выдаюць гукі. Гэтыя гукі разам ствараюць сапраўдную мелодыю.

Лонг занесла атрыманыя даныя ў камп'ютар. Камп'ютар пры дапамозе спецыяльнай праграмы запісаў іх «музыку». Магчыма, што праз некаторы час мы паслухаем спевы ружы, сасны ці квітнеючага саду *(газета «Раніца»)*.

Знайдзіце дзеясловы і тыя словы, з якімі яны звязаны па сэнсе. Выпішыце гэтыя спалучэнні, вызначце час і лік дзеясловаў.

У з о р: *мы* (ш т о з р о б і м?) *паслухаем — будучы час, мн. л.*

**199.** Прачытайце тэкст. Які загаловак можна яму даць?

Яны ніцма ляжаць пад маладым дубком і маўчаць. Раптам ён кажа:

— Мамка, паслухай. Лісток спявае!

Маці абапіраецца на локаць, аглядае дубок. Вачыма яна знаходзіць лісток, што жвавей за іншых трапятаў на ветрыку, і прыслухоўваецца.

— Ага, спявае! — радуецца яна.

І на тварах абаіх з'яўляецца шчаслівая ўсмешка *(Паводле Я. Пархуты)*.

Вусна вызначце род і лік прыметнікаў; час і лік дзеясловаў.

**200.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс загалоўка?

### БУДЗЬ ЧАЛАВЕКАМ

Летам у цябе будзе многа сустрэч: у лесе, на лузе. І паводзь сябе, як патрэбна сапраўднаму чалавеку.

Нікога *(не)* забівай, *(не)* знішчай. *(Не)* нясі ў няволю вожыка. *(Не)* кідай каменьчыкам у жабу. *(Не)* трывож птушак. *(Не)* глумі палявой і лугавой кветкі. Ведай, што з-за аматараў збіраць вялікія букеты бяднеюць нашы паплавы і ўзгоркі. У полі, у лесе, на лузе ты госць, а ў гасцях трэба ўмець сябе паводзіць *(Паводле Н. Надзеждзінай)*.



Якія сказы па мэце выказвання пераважаюць у гэтым тэксце? Чаму?

Спішыце другі абзац, раскрываючы дужкі.

**201.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Нас кліча вясёлае поле і гай.
Бывай жа да восені, школа, бывай!
А заўтра наш поезд памчыцца ўдаль,
дзе сонца іграе, дзе пеніць вада,
дзе вецер над полем шуміць і шуміць,
дзе песенька наша ўдаль паляціць,
то рэчкай памчыцца, то выйдзе на бор,
то звонка закружыць высока ля зор.
Мы будзем купацца, гуляць, загараць
і дружна вясёлыя песні спяваць.

*П. Броўка*

**202.** Разгадайце рэбус — і вы даведаецеся, куды вас запрашае Вася Вясёлкін.




Раскажыце, як вы думаеце правесці лета.

## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Абша́р** — неабсяжная прастора.

**Аксамі́тны** — з уласцівасцямі аксаміту — шаўковай тканіны з мяккім, гладкім і густым ворсам.

**Анагра́ма** — словы, якія ператвараюцца ў іншыя словы, калі ў іх пераставіць літары або склады.

**Буршты́н** — скамянелая жоўтая празрыстая смала хвойных дрэў.

**Ва́бны** — які вабіць, зачароўвае сваім выглядам.

**Зато́ка** — невялікі рачны заліў.

**Змо́ра** — стан зморанага чалавека, стома.

**Ізумру́дны** — празрыста-зялёны.

**Кля́штар** — каталіцкі манастыр.

**Крыж** — ніжняя частка хрыбетніка.

**Ла́шчыць** — праяўляць пяшчотнасць, ласку.

**Малекуля́рны** — які складаецца з найменшых часцінак рэчыва (малекул).

**Ма́нтыя** — доўгая шырокая адзежына ў выглядзе плашча.

**Натхнёны** — поўны натхнення, творчага ўздыму, захаплення.

**Не́тры** — непраходныя, глухія мясціны; прастора, парослая густым лесам.

**Пе́кны** — прыгожы.

**Пратэі́ны** — прыродныя рэчывы, што ўваходзяць у састаў клетак усіх жывёл і раслін.

**Прына́дны** — прываблівы, прывабны.

**Прыса́ды** — дрэвы, пасаджаныя каля дарогі, вуліцы, будынка.

**Распа́лка** — тое, чым распальваюць дровы, торф, вугаль.

**Самаві́ты** — паважны, салідны, спакойны.

**Селекцыяне́р** — спецыяліст па стварэнні гатункаў раслін.

**Спага́дны** — чулы, сардэчны.

**Структу́ра** — будова чаго-небудзь.

**Сумёт** — намеценая ветрам гурба снегу.

## АРФАГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

абысці́
адцвіта́ць
адысці́
арэ́шнік
буйны́
бутэрбро́д
верабе́й
во́ўна
во́сеньскі
вы́йсці
гарадскі́
гліня́ны
дзве
дзяўбці́
драўля́ны
звіне́ць
зімаро́дак
знішча́ць
каляндა́р
камба́йн
камба́йнер
камп’ю́тар
крышта́льны
людскі́
мело́дыя
навы́перадкі
надысці́
напераго́нкі
напрадве́сні
напрасткі́
натхнёны
наўздаго́н
о́рдар
павява́ць
падысці́
пала́ць
пясча́ны
саламя́ны
самацве́ты
сардэ́чны
святкава́ць
сусе́дні
усміха́цца
флама́стар
цвісці́
цвіце́нне
цыко́рыя
штого́д
штодзе́нь

## АДГАДКІ, ПАДКАЗКІ

| *Нумар практ.* | |
|---|---|
| 9 | Дапамажыце птушкам |
| 30 | Падзялёнка, незабудка, клён, папараць |
| 49 | Сыр — рыс, ток — кот |
| 55 | Акунь, шчупак, лешч |
| 85 | Лес, рака, снег, гарбуз, неба, ліса |
| 117 | Дождж, заяц, сонца, трава (рунь) |
| 124 | Ліст, грыб, піла |
| 174 | Кніга; тралейбус, трамвай |
| 202 | На рыбалку |

# Змест

**СЛОВА** ........................................................ 3

**САСТАЎ СЛОВА** ................................................ 3
Суфікс як частка слова ........................................ 3
Ужыванне ў мове слоў з суфіксамі ........................ 8
Падваенне зычных на стыку кораня і суфікса ..... 11
Разбор слоў па саставе .......................................... 13
*Кантрольныя пытанні і заданні* ........................ 16

**ЧАСЦІНЫ МОВЫ** ............................................... 19
**Назоўнік як часціна мовы** ................................ 19
Вызначэнне назоўніка па значэнні і пытанні ....... 21
Назоўнікі, якія абазначаюць жывыя прадметы .... 24
Назоўнікі, якія абазначаюць нежывыя прадметы 26
Род назоўнікаў ......................................................... 29
Назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду... 31
Назоўнікі адзіночнага і множнага ліку.................. 34
Змяненне назоўнікаў па ліках ................................ 37
Утварэнне множнага ліку назоўнікаў пры дапамозе канчаткаў ***-ы, -і*** ............................................ 40
*Кантрольныя пытанні і заданні* ........................ 43

**Прыметнік як часціна мовы** ............................. 45
Вызначэнне прыметніка па значэнні і пытанні .... 49
Сувязь прыметніка з назоўнікам у сказе ............. 51

Змяненне прыметнікаў па родах. Прыметнікі мужчынскага роду ........ 54
Прыметнікі жаночага роду ........ 57
Прыметнікі ніякага роду ........ 59
Змяненне прыметнікаў па ліках ........ 61
*Кантрольныя пытанні і заданні* ........ 64

**Дзеяслоў як часціна мовы** ........ 66
Вызначэнне дзеяслова па значэнні і пытанні ....... 69
Змяненне дзеяслова па часах ........ 72
Дзеясловы цяперашняга, прошлага і будучага часу 75
Вызначэнне часу дзеяслова па пытанні ........ 81
Дзеясловы адзіночнага і множнага ліку ........ 84
Змяненне дзеясловаў прошлага часу па родах ...... 89
Правапіс ***не*** з дзеясловамі ........ 92
*Кантрольныя пытанні і заданні* ........ 95

**ПАЎТАРЭННЕ** ........ 98

Тлумачальны слоўнік ........ 113
Арфаграфічны слоўнік ........ 115
Адгадкі, падказкі ........ 116

**Красней, В. П.**
К78 Беларуская мова : падручнік для 3-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання: у 2 ч. / В. П. Красней. — 2-е выд., перапрац. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012. — Ч. 2. — 120 с. : іл.
ISBN 978-985-465-974-9.

**УДК 811.161.3(075.2=161.3)**
**ББК 81.2Беи-922**

Папярэдняе выданне аўтараў В. П. Краснея, А. М. Рудэнкі «Беларуская мова. 3 клас» выйшла ў 2007 годзе

Вучэбнае выданне

**Красней** Віктар Пятровіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, перапрацаванае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*. Рэдактар *К. І. Іванова*. Мастак *М. У. Мароз*. Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*. Камп’ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*. Карэктар *Л. А. Міснікевіч*

Падпісана ў друк 07.08.2012. Фармат 70×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,78. Ул.-выд. арк. 3,63 + 0,47 форз. Тыраж 21 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». ЛП №02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

